КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net

**Рэдакцыя часопіса:**

Заснавальнік і рэдактар Пётра Мурзёнак

Сябры рэдакцыі: Наталія Баркар

Вікторыя Казлова

Галіна Туміловіч

*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

# Зьмест часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

# №10, чэрвень 2015



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў выйдзе ў верасьні 2015 года*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

<u>*Прадмова*</u> **рэдактара да дзесятага нумара часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"**

**Дарагія чытачы!**

Дзесяты нумар часопіса пачынаецца з артыкула пра ролю царквы ў будаўніцтве нацыі. Робяцца высновы, што ў цэлым царква мае адмоўны уплыў на нацыянальнае будаўніцтва бо не ўлічвае інтарэсы нявернікаў і атэістаў, стаіць па-над дзяржавай і па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах сее варожасьць паміж людзьмі. Выказваецца меркаваньне, што роля царквы ў дзяржаўным\нацыянальным будаўніцтве ў будучыні будзе невысокай, уключна з праваслаўнай царквой, роля якой у грамадстве мэтанакіравана перабольшваецца. Праваслаўе ахоплівае не больш паловіны насельніцтва Беларусі.

Часопіс правёў храналагічнае даследаваньне падзей зьвязаных з абвяшчэньнем Беларускай Народнай Рэспублікі – прадумовы скліканьня 1-га Ўсебеларускага з'езда і яго правядзеньне, дзейнасьць Рады БНР у 1918 г. ва ўмовах нямецкай акупацыі.

У наступным артыкуле праводзіцца абгрунтаваньне памылковасьці выбару даты сьвяткаваньня Дня Рэспублікі, 3 ліпеня. У сучаснай гісторыі Беларусі, у 20-м стагоддзі, адбылося 6 абвяшчэньняў незалежнасьці краіны. З іх толькі першае, 25 сакавіка 1918 г., і апошняе, 27 ліпеня 1990 г., абвяшчэньні найбольш адпавядаюць гэтаму сьвяту; даты 25 сакавіка і 27 ліпеня могуць быць уключанымі ў будучы рэферэндум па даце прызначэньня Дня Рэспублікі. 3 ліпеня мінчане і грамадзяне Беларусі могуць адзначаць як і раней, як Дзень вызваленьня Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў.

Даецца пераклад артыкула А. Таргоўскага, прысьвечанага ўтварэньню Глабальнай цывілізацыі. Часопіс "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" прытрымліваецца той ідэі, што роль нацый у разьвіцьці чалавецтва не будзе зьмяншацца. У нашым часопісе было абгрунтавана існаваньне Усходнеславянскай беларуска-украінскай цывілізацыі, якая мае шмат прызнакаў Заходняй цывілізацыі. Аўтар адносіць Беларусь да Усходняй цывілізацыі, з чым мы не можам пагадзіцца. Трансфармацыя Заходняй цывілізацыі ў Глабальную, якую абмяркоўвае аўтар, можа мець уплыў на магчымыя шляхі развіцьця нашай і іншых цывілізацый.

У секцыі літаратуры мы зьмяшчаем кароткія аб'явы аб выхадзе ў сьвет новых кніг Віталя Воранава, Ірыны Шумскай і Юрася Шамецькі.

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

Кожны год часопіс пашырае на сваім сайце галерэю найбольш выбітных дзеячоў нацыянальнага адраджэньня. Прынцып уключэньня гістарычных асоб у галерэю вельмі просты – круглыя даты з дня нараджэньня. Вядома, ахапіць усіх дзеячоў адразу немагчыма, таму мы разлічваем на паступовую працу ў папаўненьні галерэі. У гэтым годзе калекцыя папоўнілася партрэтамі Ларысы Геніюш, 105 год з дня нараджэньня, Уладзіміра Дубоўкі – 115 год, Альгерда Абуховіча – 175 год, Францішка Багушэвіча – 175 год, Міколы Гусоўскага – 545 год. Пад партрэтамі даюцца кароткія вытрымкі, якія на нашу думку найбольш адлюстроўваюць дзейнасьць нашых нацыянальных герояў.

*Пётра Мурзёнак*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

*Артыкулы*

**Пётра Мурзёнак: ЦАРКВА І НАЦЫЯ**

*Ключавыя словы: рэлігія, канфесіі, нацыянальнае будаўніцтва*

Царква з'яўляецца адным з тых інстытутаў, якія ўплываюць на працэсы нацыянальнага будаўніцтва. Аднак, у якой ступені? Відаць, што гэта залежыць як ад значнасьці уплыву царквы на рэлігійную і нацыянальную сьвядомасьць грамадзян, так і ад фармальных і нефармальных узаемаадносін паміж царквой і дзяржаўнымі структурамі.

Увогуле, асноўнае прызначэньне царквы гэта быць пасярэднікам паміж веруючым чалавекам і богам. Рэлігійныя пастулаты амаль кожнай рэлігійнай канфесіі клічуць да дабра і выхоўваюць людзей Беларусі на агульначалавечых каштоўнасьцях і на прынцыпах хрысьціянскай маралі (у асноўным), і ў гэтым сэнсе, відавочна, што яны могуць на ўзроўні асобы ўмацоўваць маральныя асновы, на якіх будуецца нацыя. У выпадку, калі царква выходзіць за межы гэтых узаемаадносін і пачынае праяўляць сябе ў сферы адносін дзяржава-чалавек ці дзяржава-дзяржава, узнікаюць праблемы. Па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах розныя рэлігійныя канфесіі спаборнічаюць між сабой і перашкаджаюць працэсам кансалідацыі нацыі: па-першае, тая ці іншая канфесія, як правіла, знаходзіцца па-над нацыяй-народам-дзяржавай; па-другое, розныя цэрквы падсьвядома распальваюць варожасьць паміж людзьмі нават аднаго этнасу; і па-трэцяе, не бяруцца да ўвагі інтарэсы нерэлігіёзных людзей і атэістаў.

Не абмяркоўваючы права кожнага чалавека верыць ці ня верыць у Бога, звернемся да звестак, якія характарызуюць стан рэлігійных свабод у краіне. Суадносіны рэлігіі, дзяржавы і грамадзян Беларусі рэгулююцца Кастытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях» (№ 137-З, 31.10.2002). Паводле Канстытуцыі *“Рэлігіі і веравызваньні роўныя перад законам»* **(Артыкул 16), і «***Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай ...”* **(Артыкул 31).** Гэтыя ж палажэньні ёсьць і ў упамянутым вышэй Законе, за выключэньнем аднаго, зьмешчанага не ў асноўным тэксьце Закона, а ў яго

прэамбуле, якое можа трактавацца як перавага адной царквы ў адносінах да іншых, а менавіта:

*“Гэты Закон рэгулюе праваадносіны ў галіне правоў чалавека і грамадзяніна на свабоду сумленьня і свабоду веравызваньня, а таксама вызначае прававыя асновы стварэньня і дзейнасьці рэлігійных арганізацый зыходзячы з: … прызнаньня вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным стаўналеньні і развіцьці духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа; духоўнай, культурнай і гістарычнай ролі Каталіцкай царквы на тэрыторыі Беларусі; неаддзельнасьці ад агульнай гісторыі народа Беларусі Евангелічна-лютэранскай царквы, іўдаізму і ісламу …”.*

З Закона вынікае, што, па-першае, не ўсе магчымыя цэрквы ўпамянуты ў ім; па-другое, прызнаньне вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным развіцьці беларускага народа прыніжае роль іншых рэлігійных канфесій, і ў дадатак, выключае, да прыкладу, вядомую гістарычную роль Уніяцкай царквы, якая ўвогуле не ўпамінаецца.

Беларусь праз вякі праходзіла пасьлядоўна праз паганства-праваслаўе-каталіцтва-пратэстантызм-уніяцтва-зноў праваслаўе. Ацаніць найбольшую важнасьць адной якой-небудзь царквы для кожнага з гэтых перыядаў (паганства, Хрышчэньне, Рэфармацыя, Контрэфрармацыя, рэпрэсіі супраць уніяцкай царквы) з пункту гледжаньня уплыву на развіцьцё беларускай нацыі вельмі складана. Да прыкладу, уніяцтва ў Беларусі існавала больш за 200 год, пачынаючы з Брэсцкай Уніі (1596) і да 1839 года, калі Уніяцкая царква была скасавана і далучана да Рускай праваслаўнай царквы. У канцы 18-га стагоддзя да Уніяцкай царквы належала больш за 70% насельніцтва Беларусі. Падаецца, што як прэферэнцыі, якія дзяржава дае праваслаўю, так і прыцясненьні пратэстантаў, католікаў з’яўляюцца памылковымі дзеяньнямі ўрада, бо не вядуць да нацыянальнай згоды ў дзяржаве, а значыць, памяншаюць умовы для нацыянальнай свабоды, бясьпекі і развіцьця нацыі.

Магчыма, што палажэньне аб “вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы” прыйшло ў Закон ад жаданьня кіраўніцтва дзяржавы мець галоўную царкву, да якой можна было б апеляваць у пытаньнях падтрымкі ўлады. Многімі дзяржавамі ў гісторыі рабіліся спробы ўсталяваць адну дзяржаўную рэлігію ў краіне для ўмацаваньня дзяржаўнасьці ці нацыянальнай свабоды, дзе жылі людзі з рознымі веравызваньнямі. Аднак, ў сваёй большасьці гэтыя спробы сканчаліся міжканфесійнымі канфліктамі (найбольш яркі прыклад барацьба паміж пратэстантамі і католікамі у Францыі ў мінулым). Сюды трэба дадаць і сучасныя сутыкненьні: паміж праваслаўем і ісламам у Расіі; паміж праваслаўем і праваслаўем на Украіне; паміж ісламам і іудаізмам,

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

паміж ісламам і каталіцызмам у шэрагу краін: ЦАР, Уганда, Філіпіны, Пакістан, Егіпет). Прыклады краін, дзе абсалютная большасьць насельніцтва належыць да адной канфесіі (Польшча, Філіпіны) з’яўляюцца выключэньнем. Аднак, нават у Філіпінах, дзе менш 5% людзей належаць да ісламу, час ад часу ўзнікаюць узброеныя канфлікты заснаваныя на рэлігійнай розьні. Не адмаўляючы групам людзей ці этнасам у праве на рэлігійную самаідэнтыфікацыю, можна толькі адзначыць, што царква, калі і ўплывае на нацыянальнае будаўніцтва, то ў канчатковым выглядзе толькі ў адмоўным сэнсе. Па стану на сёняшні дзень, на шчасьце, самі беларусы ацэньваюць міжканфесійныя адносіны ў сваёй краіне як спакойныя.

Якім чынам і ў якім аб’ёме царква можа ўплываць на грамадскае жыццё ў Беларусі? Яшчэ нядаўна, у савецкі час, любая царква была прыгнечана. Не дзіва, што ў пост-савецкі перыяд колькасьць вернікаў у Беларусі ўзрасла. Так, калі ў 1987 годзе да вернікаў адносілі сябе 15% насельніцтва, то па звестках Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Рэспублікі Беларусь у 2007 годзе такіх было каля 50%, а ў 2010 г. – 58.9%. Часткова гэта можна растлумачыць эфектам адмены забароны, а таксама тым, што некаторыя людзі баяліся дэманстраваць свае адносіны да царквы. Малаверагодна, што можна чакаць далейшага павышэньня долі вернікаў, зыходзячы з таго, што рэлігіёзнасьць насельніцтва ў многіх краінах змяншаецца.

Рэлігійныя свабоды ёсьць важнейшым кампанентам індывідуальных правоў і свабод. Аднак, трэба адзначыць, што рэлігія ня ёсьць агульнай каштоўнасьцю для ўсіх. Пытаньне аб прыналежнасьці да той ці іншай царквы пры перапісах насельніцтва не задаецца. Таму ўсе звесткі атрымліваюцца пры апытаньнях і вынікі пры гэтым могуць у некаторай ступені адрозніцца. Так, па звестках Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Рэспублікі Беларусь ў 2010 г. значная частка насельніцтва (41.1%) былі няверніскамі. Паводле апытаньняў (Gallup poll, 2007-2008) Беларусь трапляе ў катэгорыю краін з найменшай рэлігіёзнасьцю. На пытаньне наколькі важная для вас рэлігія ў паўсядзённым жыцьці толькі 27% беларусаў адказалі станоўча. Гэта 11-е месца сярод краін з найменшай рольлю рэлігіі ў жыцьці (гл. таліцу злева). Такім чынам, на сёняшні дзень значная доля людзей у Беларусі да рэлігіі ніяк не належыць.

Для параўнаньня, ніжэй зьмешчана доля ўмераных (табліца пасярэдзіне) і максімальных (табліца справа) станоўчых адказаў на гэта ж пытаньне. У Егіпце гэта доля складае 100%, Бангладэш – 99%, Аўстрыі - 55%, Сербіі – 51%, Эстоніі – 14%.

*Top 11 Least Religious Countries*

Is religion an important part of your daily life?

| Country | % Yes |
|---|---|
| Estonia | 14 |
| Sweden | 17 |
| Denmark | 18 |
| Norway | 20 |
| Czech Republic | 21 |
| Azerbaijan | 21 |
| Hong Kong | 22 |
| Japan | 25 |
| France | 25 |
| Mongolia | 27 |
| Belarus | 27 |

2007-2008

GALLUP POLL

*Countries With Comparable Religiosity*

Is religion an important part of your daily life?

| Country | % Yes |
|---|---|
| Switzerland | 42 |
| South Korea | 45 |
| Canada | 45 |
| Taiwan | 45 |
| Montenegro | 46 |
| Slovakia | 47 |
| Israel | 50 |
| Singapore | 50 |
| Serbia | 51 |
| Austria | 55 |

2007-2008

GALLUP POLL

*Top 11 Most Religious Countries*

Is religion an important part of your daily life?

| Country | % Yes |
|---|---|
| Egypt | 100 |
| Bangladesh | 99 |
| Sri Lanka | 99 |
| Indonesia | 98 |
| Congo (Kinshasa) | 98 |
| Sierra Leone | 98 |
| Malawi | 98 |
| Senegal | 98 |
| Djibouti | 98 |
| Morocco | 98 |
| United Arab Emirates | 98 |

2007-2008

GALLUP POLL

Паводле апытаньня аб канфесійнай прыналежнасьці людзей Беларусі, праведзенае Інфармацыйна-аналітычным цэнтрам (ІАЦ) пры Адміністрацыі Прэзідэнта ў 2011 годзе, 93,5% рэспандэнтаў аднесьлі сябе да той або іншай рэлігіі, зь іх: 81% — праваслаўныя (паводле ІАЦ, каля 75% ад агульнай колькасьці насельніцтва); 10,5% — каталікі (каля 9% ад агульнай колькасьці); 2% — іншыя рэлігіі. Невядома, якую методыку выкарыстоўваў ІАЦ, аднак атрыманыя звесткі ў значнай ступені не супадаюць са звесткамі атрыманымі другой афіцыйнай установай; паводле Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў РБ (гэтыя ж лічбы прыведзены і на старонках вэб-сайта Міністэрства замежных спраў Беларусі), у 2010 годзе 58,9% грамадзянаў аднесьлі сябе да тае або іншае рэлігіі, з іх 82,5% — праваслаўныя (48.3% ад агульнай колькасьці насельніцтва), 12% — каталікі (7.1% ад агульнай колькасьці), 6% — іншыя рэлігіі (3.5% ад агульнай колькасьці). Магчыма, што істотныя разыходжаньні ў долі праваслаўных сярод усяго насельніцтва у гэтых двух апытаньнях (75% і 48%, адпаведна), звязаны з розным падыходам у разліках. Паводле ІАЦ, колькасьць людзей, якія заявілі, што яны вераць у Бога складае 65%; калі зрабіць папраўку на гэту лічбу, то доля праваслаўных складзе 52.7% (а не 75%) ад агульнай колькасьці насельніцтва (65% х 81%\100=52.7%), што блізка да звестак Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў РБ. Гэтыя лічбы кажуць аб тым, што ні адна з канфесій не мае пераважнага ўплыву на насельніцтва, хаця традыцыйна лічыцца, што Беларусь – краіна праваслаўная.

Ні адна з рэлігійных канфесій у Беларусі не мае абсалютнай большасьці і па колькасьці рэлігійных суполак (глядзіце табліцу; Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў РБ, на 01.01.2012). У краіне 27 веравызваньняў (канфесій ці іх напрамкаў), якія ў асноўным належаць да хрысьціянскай веры. Лідэрам з'яўляецца праваслаўная царква, якая мае 1567 суполак, што складае 48.8% ад усіх рэлігійных суполак ў Беларусі (3210), на другім месьцы хрысьціяне веры евангельскай – 512 (16%), на трэцім – рымска-каталіцкая царква – 479 (14.9%). Неадпаведнасьць значнай долі суполак і невялікай долі ад агульнай колькасьці насельніцтва для некаторых канфесій\напрамкаў, відаць, абумоўлена малалікасьцю вернікаў у суполках.

| **Найменьне канфесіі\напрамку** | **Колькасьць суполак** | **Працэнт** |
|---|---|---|
| **Праваслаўная царква** | **1567** | **48.8** |
| **Хрысьціяне веры эвангельскай** | **512** | **16.0** |
| **Рымска-каталіцкая царква** | **479** | **14.9** |
| **Эвангельскія хрысьціяне-баптысты** | **286** | **8.9** |
| **Адвэнтысты сёмага дня** | **73** | **2.3** |
| **Хрысьціяне поўнага Эвангельля** | **55** | **1.7** |
| **Юдаізм** | **36** | **1.1** |
| **Стараабрадчая царква** | **33** | **1.0** |
| **Лютэранская царква** | **27** | **0.8** |
| **Сведкі Яговы** | **27** | **0.8** |
| **Іслам** | **25** | **0.8** |
| **Новаапостальская царква** | **21** | **0.7** |
| **Прагрэсіўны юдаізм** | **17** | **0.5** |
| **Грэка-каталіцкая царква** | **15** | **0.5** |
| **Іншыя** | **37** | **1.2** |
| | **Усяго суполак: 3210** | **100%** |

Беларусь краіна славянская; беларусы (83.7%), рускія (8.3%), палякі (3.7%) і украінцы (1.7%) разам складаюць 97% насельніцтва краіны (перапіс 2009). Славяне прытрымліваюцца ў асноўным хрысьціянскай веры. Еўрапейскае бюро (2008 European Values Survey) прыводзіць прагнозныя звесткі, якія сьведчаць, што доля хрысьціян у Беларусі будзе заставацца больш-менш стабільнай на працягу 40 год, нягледзячы на некаторае скарачэньне агульнай колькасьці насельніцтва і павелічэньне долі мусульман да 2.4% ў 2050 г. Доля нерэлігійных людзей у Беларусі паводле гэтага апытаньня складала ў 2010 г. 28.6% (глядзі малюнак і табліцу ніжэй).




**Табліца. Прагноз рэлігійных суадносін у Беларусі на 40 год** *(Pew Research Center)*

| | Хрысьціяне | Іслам | Не рэлігійныя | Хінду | Буддзісты | Народныя рэлігіі | Яўрэі | Іншыя | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2010 | 6,830,000 | 20,000 | 2,740,000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 9,600,000 |
| 2020 | 6,650,000 | 50,000 | 2,690,000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 9,410,000 |
| 2030 | 6,450,000 | 100,000 | 2,570,000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 9,130,000 |
| 2040 | 6,250,000 | 150,000 | 2,400,000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 8,810,000 |
| 2050 | 6,060,000 | 200,000 | 2,230,000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 8,510,000 |

Нягледзячы на ўключэньне значнай часткі грамадзян у рэлігійнае жыццё, іх актыўнасьць ў гэтай сферы ня ёсьць высокай. Па звестках Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, у Беларусі ў 2011 г. было 19.9% сапраўды веруючых, сярод іх праваслаўных - 57.3%, каталікаў - 34.5%, пратэстантаў – 3.1%, у пераліку на ўсё насельніцтва гэта складае – 14.3%, 8.6%, і 0.7%, адпаведна. Да прыкладу, па звестках Міністэрства ўнутраных спраў РБ, на Раство Хрыстова ў ноч на 7 студзеня 2015 г. праваслаўныя цэрквы ў Беларусі наведалі 119.800 чалавек, што складае не болей за 0.15% ад насельніцтва краіны, у храмах і прыходах Мінска ў мерапрыемствах 6 і 7 студзеня ўзялі ўдзел блізу 52 тысяч грамадзян або 2.9% ад насельніцтва горада (“Хартыя 97”, 8.01.2015).

Такім чынам, як па ахопу насельніцтва, так і па актыўнасьці саміх вернікаў, ні адна з цэркваў у Беларусі не мае пераважнага уплыву на большасьць насельніцтва, уключаючы праваслаўную царкву, роля якой у грамадстве перабольшана.

**Заключэньне**

1. Кожная з цэркваў\канфесій паасобку маглі б мець станоўчы уплыў на індывідуальным узроўні ў падтрыманьні адпаведнай маральнасьці і менталітэту, якія павінны ляжаць у падмурку нацыі. Аднак, сёняшняя царква ня ёсьць важным інстытутам будаўніцтва нацыі і не спрые яе ўмацаваньню і яднаньню. Розныя цэрквы стаяць па-над нацыяй\дзяржавай, па аб’ектыўных ці суб’ектыўных прычынах сеюць варожасьць паміж рознымі канфесіямі, не улічваюць інтарэсы нявернікаў і атэістаў.
2. Нягледзячы на тое, што значная частка насельніцтва (58.9%) належыць да той ці іншай царквы, колькасьць актыўных вернікаў, паводле розных апытаньняў, даволі нізкая (20-27%). Разам з істотнай доляй нявернікаў у краіне (41.1%), і з улікам існуючай тэндэнцыі да змяншэньня ролі царквы ў паўсядзённым жыцьці грамадзян магчымая патрымка царквы ў дзяржаўным\нацыянальным будаўніцтве ў будучыні, здаецца, будзе невысокай.
3. Праваслаўе з’яўляецца уплывовай царквой ў Беларусі, аднак, яго роль у грамадстве мэтанакіравана перабольшваецца. Паводле розных апытаньняў, праваслаў’е ахоплівае менш паловы насельніцтва Беларусі: у краіне 27 веравызваньняў (канфесій ці іх напрамкаў) з агульнай колькасьцю ў 3210 рэлігійных суполак, сярод іх да праваслаўнай царквы належыць 1567 рэлігійных суполак або 48.8%; доля праваслаўных сярод агульнай колькасьці насельніцтва складае 48.9%.

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

**Piotra Murzionak: CHURCH AND NATION**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2015, issue 10, pp. 6-13)*

1. Each of the churches \ confessions alone could have a positive impact on the individual level in the maintenance of appropriate morality and mentality, which should be the basis of the nation. However, the church today is not the important institution of nation-building, and does not contribute to its strengthening and unity. Various churches stand on top of the nation \ state, for objective or subjective reasons sow enmity between faiths and do not take into account the interests of non-believers and atheists.
2. Despite the fact that a significant part of the population (58.9%) belongs to this or that church, the number of active members, according to various surveys, is rather low (20-27%). Together with a significant share of non-believers in the country (41.1%), and taking into account the current trend to reduction of the role of the Church in the daily life of citizens, a possible church support in the state \ nation-building in the future seems to be low.
3. The Orthodox Church is an influential church in Belarus, however, its role in the society deliberately exaggerated. According to various polls, Orthodoxy covers less than half of the population of Belarus: the country has 27 confessions with a total of 3210 religious communities, including 1567 religious communities (48.8%) which belong to the Orthodox Church; the proportion of Orthodox among the total population is 48.9%.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

**Пётра Мурзёнак: Беларуская Народная Рэспубліка. І. Перадумовы скліканьня 1-га Ўсебеларускага з’езду**

*Ключавыя словы: 1-я сусьветная вайна, лютаўская і кастрычніцкая рэвалюцыі, дзейнасьць нацыянальных і расійскіх арганізацый*

**Агульная характарыстыка становішча ў Беларусі ў 1917 г.**

Тры важныя эпахальныя падзеі мелі безумоўны уплыў на развіццё сітуацыі ў Беларусі ў 1917 г. Адной з іх была першая сусьветная вайна. Пачаўшыся ў 1914 годзе, яна ў 1915 г. затрымалася на тэрыторыі Беларусі і амаль да лютага 1918 г. лінія абароны паміж расійскімі і нямецкімі войскамі праходзіла праз сэрца нашай краіны – па ўмоўнай лініі ад Пінска і Баранавіч да Пастаў, Глыбокага і Дзвінска (Даўгаўпілс). Разам з усімі ваеннымі няшчасьцямі - сьмерць, разруха, голад - вайна вымусіла пакінуць свае хаты каля 1 млн жыхароў Беларусі. Нават мяне нейкім чынам закранула 1-я сусьветная вайна. Па-першае, мой дзед, Мурзёнак Сільвестр Ігнатавіч, быў прызваны ў царскую армію ў 1915 г. і прасядзеў амаль тры гады ў акопах пад Баранавічамі. Вёска Дварчаны, дзе я правёў сваё дзяцінства, падчас 1-й сусьветнай вайны была пад немцамі, а за 1-2 км на ўсход знаходзілася абарона расійскай арміі. Мы ў дзяцінстве лазілі па акопах, збудаваных з аднаго і з другога боку, шукалі патроны, шрапнель. І знаходзілі. Да таго ж у нашай вёсцы былі нямецкія могілкі, дзе былі пахаваны каля сотні жаўнераў. На жаль, гэтыя могілкі на сёняшні час амаль зьніклі.

Другая падзея, ў значнай ступені справакаваная 1-й сусьветнай вайной, гэта лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі. 2 сакавіка 1917 года цар Мікалай II адрокся ад прастола на карысьць брата Міхаіла, які на другі дзень таксама адмовіўся ад прастола. У Расіі пачаў кіраваць Часовы ўрад на чале з князем Г. Львовым. Часовы урад, дзе большасьць займалі кадэты, вымушаны быў працаваць пад кантролем Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, створаных падчас рэвалюцыі, і якія былі найбольш актыўнымі ў Петраградзе і ў Маскве. У Саветах у гэты час кіравалі меншавікі. Пазьней, у ліпені 1917 года, князя Львова зьмяніў А. Керанскі (эсэр) (А. Керанскі ва ўрадзе князя Львова быў міністрам юстыцыі і адначасова з’яўляўся намеснікам старшыні Петраградскага савета). На вялікай прасторы Расійскай імперыі на фоне вайны народ чакаў дэмакратычных зьмен – свабоды слова, друку, скліканьня Устаноўчага сходу (парламенту).

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*




**Лінія фронту паміж нямецкімі і расійскімі войскамі ў 1917 годзе**
**http://commons.wikimedia.org/wiki/Atlas_of_World_War_I#/media/File:EasternFront1917.jpg**

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

**Першы Часовы ўрад Расіі**




FIRST PROVISIONAL GOVERNMENT
From left to right: P. N. Miliukov, Prince G. E. Lvov, A. F. Kerensky, N. V. Nekrasov, A. I. Konovalov, Prof. A. A. Manuilov, A. I. Guchkov, A. I. Shingariev, A. I. Terestchenko, I. V. Godniev, V. N. Lvov and F. I. Rodichev.

І нарэшце, трэцяя падзея, якая мела істотны уплыў на жыццё цывілізацыі ў 20-м стагоддзі – Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, якая прынесла на тэрыторыю былой Расійскай імперыі ідэі дыктатуры пралетарыята і сусьветнай рэвалюцыі і ўскалыхнула ўсе пласты грамадства. Бальшавікі абяцалі мір, зямлю, вырашэньне пытаньняў самавызначэньня нацый.

Перад тым як характарызаваць удзельнікаў палітычных падзей гэтага перыяду ў Беларусі трэба даць кароткую зьвестку аб суадносінах гарадскога і сельскага насельніцтва, бо традыцыйна лічыцца, што сяляне з'уляюцца найменш актыўнай у палітычным сэнсе групай насельніцтва той ці іншай краіны. У 1909 годзе амаль 90% беларусаў жыла у вёсках. Так, у горадзе Мінску ў 1909 г. пражывала 43.3% яўрэяў,

34.8 % рускіх, 11.4% палякаў; такім чынам, на долю беларусаў і іншых нацыянальных груп заставалася 10.5%. У 1913 г. доля беларусаў у гарадах складала 14-16%, у Мінску у 1913 г. пражывала 116 тыс. чалавек, большую частку з іх складалі яўрэі, якія мелі свае інтарэсы ў адстойваньні нацыянальнай аўтаноміі. У 1917 г. у Мінску пражывала 67 000 яўрэяў, дзейнічалі 83 сінагогі.

Калі разглядаць афіцыйныя ўлады, то пасля лютаўскай рэвалюцыі у Мінску ўсталявалася трохуладдзе:

> **3-4 сакавіка 1917 года** прадстаўнікамі гарадской думы, губернскіх і земскіх органаў быў створаны Камітэт грамадскага парадку і бясьпекі, які фактычна прадстаўляў Часовы ўрад.
>
> Паралельна стаў працаваць Савет рабочых дэпутатаў, створаны **4 сакавіка 1917 года** (8 сакавіка ён пашырыўся і стаў Мінскім Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў). У склад Савета ўвайшлі 22 члены, большасьць у якім належала меншавікам і бундаўцам. Уплыў Мінскага Савета распаўсюджваўся па ўсёй не акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі і на Заходні фронт. На канец ліпеня 1917 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 56 Саветаў.
>
> І ў дадатак у Мінску дзейнічала трэцяя сіла - Ваеннае кіраўніцтва Заходняга фронту.

Што тычыцца грамадскіх і палітычных арганізацый, то з **лета па восень 1917 года** ў Беларусі значна вырасла актыўнасьць агульнарасійскіх партый – кадзетаў, меншавікоў, эсэраў, бальшавікоў, габрэйскіх партый (Бунд, габрэйская сацыял-дэмакартычная партыя). Калі казаць пра нацыянальныя арганізацыі, то пасьля лютаўскай рэвалюцыі з сакавіка па лістапад 1917 года ў самой Беларусі і сярод больш чым 1 млн бежанцаў дзейнічалі каля 26 палітычных партый і арганізацый, у тым ліку 14 беларускіх (Ладышаў, Брыгадзін, 1999). У гэтых арганізацыях прымалі ўдзел каля 27.000 чалавек (Рудовіч, 2001). Сярод найбольш буйных арганізацый былі Беларуская хрысьцянская дэмакратыя (БХД), Беларуская партыя народных сацыялістаў, Беларускі саюз зямельных уласьнікаў, Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ была заснавана ў 1903 г., у 1917 г. налічвала каля 5000 сяброў). Калі разглядаць прыведзеныя лічбы, то яны маглі сьведчыць аб значных сілах, дастатковых для вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў Беларусі. Аднак, гэтыя сілы не былі з'яднанымі як у сваіх мэтах, так і ў сродках іх дасягненьня. Да таго ж, побач з беларускімі арганізацыямі ў Мінску разьвіваліся арганізацыі і структуры,

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

зьвязаныя з польскім і габрэйскім рухамі. У маі 1917 года была створана Польская рада Мінскай зямлі - орган самакіраваньня польскай супольнасьці. За сваю нацыянальна-культурную аўтаномію выступала і адна з найбуйнейшых яўрэйскіх партый, Бунд (Бунд - яўрэйскі рабочы саюз Літвы, Польшчы і Расіі, антырэлігіёзная, антысіянісцкая і сацыялістычная партыя). Відавочна, што ні палякі, ня яўрэі (якія складалі большасьць насельніцтва сталіцы края - Мінска) не маглі быць у значнай ступені зацікаўленымі ў вырашэньні нацыянальнага беларускага пытаньня.

Такім чынам, вайна і разруха, насычанасьць войскамі, слабая роля цэнтральнага Часовага ўраду Расіі, шматлікасьць партый і грамадскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Беларусі, і невялікая доля беларусаў у гарадах характарызавалі агульную атмасферу ў Беларусі.

**Дзейнасьць нацыянальных арганізацый**

**25-27 сакавіка 1917 года** у Мінску адбыўся першы з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый, дзе быў выбраны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Раманам Скірмунтам. Асноўнымі задачамі камітэта былі падтрымка Часовага ўрада, падрыхтоўка праекта канстытуцыі і выбараў у Беларускую краёвую раду, адукацыя ў школах на беларускай мове, перавод багаслужбы на беларускую мову. Трэба адзначыць, што як БНК, так і шэраг іншых беларускіх арганізацый, уключаючы большасьць сяброў БСГ, прытрымліваліся ідэі аўтаноміі Беларусі ў граніцах Расійскай дэмакратычнай рэспублікі.

**4 ліпеня 1917 г**. у Петраградзе прайшла паўмільённая несанкцыянаваная дэманстрацыя; справакаваная анархістамі і падтрыманая бальшавікамі, гэта маніфестацыя была растраляна. Двоеўладдзе, якое было прадстаўлена Часовым урадам і Саветамі, скончылася. Уся ўлада апынулася ў руках Часовага ўрада, а бальшавікі, якія пачыналі пераважаць у Саветах, перайшлі ў падполье і на VI з'ездзе РСДРП (26 ліпеня - 3 жніўня 1917 г.) прынялі рашэньне аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстаньня супраць Часовага ўрада.

**8-10 ліпеня 1917 года** у Мінску адбыўся другі з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый. Замест БНК была утворана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый, на чале з Я. Лёсікам, якая з кастрычніка называлася Вялікай беларускай радай. Большасьць сяброў Рады заставаліся прыхільнікамі палітыкі аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Да тых пунктаў праграмы, над якой працаваў БНК, дадалася арганізацыя беларускага войска.

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

**У ліпені - жніўні 1917 года** ў Беларусі праходзілі выбары ў мясцовыя органы самакіраваньня (гарадскія думы, земствы), якія паказалі, што ні беларускія нацыянальныя партыі, ні бальшавікі летам 1917 г. не карысталіся значнай падтрымкай сярод насельніцтва. У мястэчках перамогу атрымалі бундаўцы, у земствах - эсэры.

**25 - 30 жніўня 1917 года** генерал Карнілаў зрабіў спробу ўстанавіць ваенную дыктатуру. У падаўленьні Карнілаўскага мяцяжу прынялі актыўны удзел бальшавікі, якія ў выніку значна ўзмацнілі свой ўплыў на народныя масы. Гэта было адной з прычын таго, што **ў верасьні 1917 г. бальшавікі** ўзялі ўладу спачатку ў Петраградскім і Маскоўскім Саветах, а затым гэта перакінулася і на іншыя рэгёны былой Расійскай імперыі. У другой палове верасьня 1917 г. у ходзе перавыбараў у Саветы бальшавікі атрымалі большасьць і ў Мінскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, куды былі выбраны 184 бальшавікі, 53% ад яго складу (кіраўнік прэзідыума К. Ландэр). Прывабнымі лозунгамі бальшавікоў былі нацыяналізацыя прамысловасьці і зямлі, 8-часовы працоўны дзень, а таксама заяўленая роўнасьць нацый і правы кожнай з іх на самавызначэньне.

Беларускія дзеячы разыходзіліся ў разуменьні падыходаў да будучых сацыяльна-эканамічных асноў беларускай дзяржаўнасьці, рэалізацыя якіх ляжала ў рэчышчы значнага спектру ідэй: ад нацыянальна-дэмакратычных ідэй да ідэй сусьветнай рэвалюцыі. Некаторыя з беларускіх дзеячоў падтрымлівалі Часовы ўрад, іншыя былі гатовы перайсьці на бальшавіцкія пазіцыі. У верасні 1917 г. частка левага крыла БСГ вылучылася і ўтварыла арганізацыю бальшавіцкага кірунку - Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю на чале з А. Чарвяковым, якая ў асноўным дзейнічала ў Петраградзе і Маскве.

Да таго ж, беларусы ў вырашэньні пытаньняў нацыянальнага будаўніцтва спазьняліся ў параўнаньні з суседзямі. Да прыкладу, украінцы зрабілі першыя крокі на самавызначэньне нацыі непасрэдна пасьля лютаўскай рэвалюцыі. (4)17 сакавіка 1917 года у Кіеве была створана Украінская цэнтральная рада, якая ўзяла на сябе функцыі заканадаўчага органа, каардынацыю украінскага нацыянальнага руху і абвясьціла аўтаномію Украіны. Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі, (7) 20 лістапада 1917 года Украіна была абвешчана рэспублікай, спачатку аўтаномнай у складзе Расійскай рэспублікі (Савченко, 2006). (3)16 снежня 1917 г. СНК Расіі прызнаў правы Украіны на самавызначэньне. Пасьля вайны з Расіяй, 22 студзеня 1918 году Україна абвясьціла сябе незалежнай дзяржавай. Літоўскі нацыянальны савет аб'явіў аб незалежнасьці Літвы ад Расіі 11 снежня 1917 года.

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

Вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў Беларусі ускладнялася тым, што бальшавікі, заявіўшы пра права нацый на самавызначэньне, у далейшым не хацелі выпускаць гэты працэс з-пад свайго кантроля. У Беларусі пасьля рэвалюцыі пачаў кіраваць бальшавіцкі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту (з 27 кастрычніка 1917 г.). Вялікая Беларуская Рада не прызнавала ўладу гэтага камітэта, які лічыла франтавым органам. Супраць новай улады выступалі таксама іншыя партыі - эсэры, бундаўцы, меншавікі, а таксама гарадская дума, цэнтральнае бюро прафсаюзаў г. Мінска і інш. У “Грамаце да ўсяго беларускага народа”, ад **27 кастрычніка 1917 года** Вялікая Беларуская Рада (ВБР), Часовая цэнтральная беларуская вайсковая рада, Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту, Беларуская сацыялістычная грамада, Беларуская народная партыя сацыялістаў заявілі, што звяржэньне Часовага ўрада і пераход улады ў рукі Савета Народных Камісараў з'яўляецца “найвялікшым бедствам”, “віхорам бязладу”, якія могуць “згубіць святую нацыянальную справу абароны вольнасьцей і правоў беларускага народу” і пагражае нават самому існаваньню беларусаў (Лепеш).

З **26 лістапада 1917 года** Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту ператварыўся ў Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласьці і фронту (АВКЗВіФ або Аблвыкамзах), які аб’ядноўваў як мясцовую (абласную), так і франтавую (Заходні фронт) ўладу (старшынёй Аблвыкамзаха быў абраны Н.В. Рагазінскі, старшынёй Савета народных камісараў – К. Ландэр). Рагазінскага пазьней зьмяніў А.Ф. Мяснікоў, які адначасова быў і камандуючым арміямі Заходняга фронту. Аблвыкамзах быў створаны ў выніку зьліцця выканкамаў абласнога Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў (35 чалавек), Савету сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губэрняў (35 чалавек) і Франтавога камітэту Заходняга фронту (100 чал.); уключаныя таксама і 17 прадстаўнікоў прафсаюзаў: рабочых (11 чал.), чыгуначнікаў (4 чал.), паштова-тэлеграфных служачых (2 чал.). Як бачна з прыведзеных зьвестак, у камітэце былі прадстаўлены толькі дзьве беларускія вобласьці, а большую частку ў камітэце займалі прадстаўнікі Заходняга фронту. Такім чынам, значную ролю ва ўстанаўленьні бальшавіцкай улады ў Беларусі пасьля рэвалюцыі адыгралі выпадковыя людзі, якія апынуліся тут у сувязі з ваеннымі абставінамі; сярод кіраўніцтва камітэта і Савета народных камісараў Заходняй вобласьці і фронту не было ніводнага беларуса. Ні Мяснікоў, ні Ландэр не прытрымліваліся ў гэты час ідэі самавызначэньня беларускай нацыі і ўвогуле не прызнавалі самаго яе існаваньня.

**Скліканьне 1-га Ўсебеларускага з’езду**

Вялікая Беларуская Рада паставіла сваёй задачай дабівацца самавызначэньня Беларусі і стварэньня сваёй рэспублікі. **30 лістапада 1917 года** была выдадзена адозва «Да ўсяго народа беларускага», у якой была абвешчана палітычная праграма нацыянальных сіл. На **5-га снежня 1917 года** склікаўся Ўсебеларускі з’езд прадстаўнікоў усяго беларускага народу (Беларусь у перыяд …; Турук, 1994).

Рэакцыя Аблвыкамзаха на скліканьне Усебеларускага з’езду ў Мінску была адмоўнай. Паводле некаторых крыніц (Егорычев, 2013), А. Мяснікоў выехаў у Петраград для кансультацый з Народным камісарыятам па справах нацыянальнасьцяў (народны камісар – І. Сталін), каб выкарыстаць іншыя беларускія арганізацыі, якія б больш лаяльна ставіліся да бальшавікоў. Бальшавікі не рашаліся прама забараніць з’езд, паколькі абвясьцілі права на самавызначэньне нацый. Паміж заявай і датай правядзеньня сходу, ініцыяванай ВБР, заставалася вельмі мала часу, фактычна адзін тыдзень, каб арганізаваць сход належным чынам. Да таго ж, пачаў праяўляць актыўнасьць у арганізацыі падобнага з’езду Беларускі абласны камітэт (БАК, старшыня Я.С. Канчар), які быў створаны з дэлегатаў беларускіх губерняў і прадстаўнікоў арміі і флоту падчас ІІ-га Усесаюзнага з’езда сялянскіх дэпутатаў, што праходзіў 26 лістапада –10 сьнежня 1917 г. у Петраградзе. БАК, прадстаўляючы сялянства, быў леваэсэраўскім камітэтам, лаяльна настроеным да Савецкай улады. БАК фактычна выступаў супраць падзелу Расіі на нацыянальныя дзяржавы. У сваёй дэкларацыі ад 30 лістапада 1917 г. БАК выступіў за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі і прызначыў з’езд на **15 сьнежня** ў Рагачове.

Такім чынам, дзве беларускія грамадскія арганізацыі – ВБР і БАК – амаль адначасова абвясьцілі аб скліканьні з’ездаў. Безумоўна, што гэта значна ўскладняла дасягненьне адзінства ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня, хаця абедзве арганізацыі аб’ядноўвала тое, што яны не прызнавалі ўладу Аблвыкамзаха. Сітуацыя для нацыянальна сьвядомых сіл была не простай і без гэтых акалічнасьцяў, аб чым сьведчаць вынікі выбараў ў склад Усерасійскага Заканадаўчага Сходу, што прайшлі ў Беларусі ў канцы лістапада 1917 г. (выбары, напачатку ініцыяваныя Часовым урадам, не былі адмененыя пасьля Кастрычніка бо бальшавікі разлічвалі на перамогу ў выбарах). З 56 абраных дэпутатаў ад Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай акруг і Заходняга фронту было 30 бальшавікоў, 22 эсэры, 2 прадстаўнікі яўрэйскіх арганізацый і 2 прадстаўнікі украінскіх эсэраў і меншавікоў. За ўсе беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі прагаласавала толькі 19.000 выбаршчыкаў або 0.6%. БСГ атрымала толькі 0.3% галасоў выбарцаў. Бальшавікі ж у Беларусі мелі 63.1% галасоў, на Беларускім фронце – 66.9% галасоў. Вынікі выбараў у Беларусі на

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

карысьць бальшавікоў відаць нельга растлумачыць толькі з пункту гледжаньня ужываньня бальшавікамі, калі казаць па сучаснаму, адміністратыўнага рэсурса. Працоўныя, насельніцтва, салдаты станоўча сустрэлі дэкрэты ІІ Усерасійскага з'езда Саветаў аб міры, зямлі і таму ішлі за бальшавікамі. Аднак, відаць былі і нейкія іншыя прычыны для такіх вынікаў у Беларусі, бо ў цэлым бальшавікі моцна прайгралі эсэрам выбары ва Ўсерасійскі Заканадаўчы Сход (24.5% у бальшавікоў супраць 57.3% у эсэраў; 51.7% у правых эсэраў плюс 5.7% у левых эсэраў).

**Заключэньне**

1. Агульная атмасфера ў Беларусі ў 1917 годзе характарызавалася вайной і разрухай, насычанасьцю войскамі, слабай роляй цэнтральнага Часовага ўраду Расіі, шматлікасьцю партый і грамадскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Беларусі, і невялікая доляй беларусаў у гарадах.
2. Арганізацыя і скліканьне 1-га Ўсебеларускага з'езда ішлі са значным спазненьнем у параўнаньні з падобнымі дзеямі ў Літве і Украіне. Галоўнымі прычынамі такой запаволенасьці былі як адносная слабасьць нацыянальна-дэмакратычных сіл, так і нявызначанасьць шляхоў нацыянальнага будаўніцтва, дзе разглядаліся ў асноўным як будаўніцтва суверэннай дзяржавы, так і існаваньне ў складзе Расіі ў якасьці аўтаноміі.
3. Скліканьне 1-га Ўсебеларускага з'езда праходзіла пры ўдзеле дзвюх асноўных сілаў – Вялікай беларускай рады і Беларускага абласнога камітэта - ва ўмовах дзейнасьці незаконнай бальшавіцкай улады.

**Спасылкі**

1. БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ І ЗАМЕЖНАЙ ВАЕНЬНАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ (КАСТРЫЧНІК 1917 — САКАВІК 1921 гг.) http://bargu.by/3128-belarus-u-peryyad-kastrychnckay-revalyucy-zamezhnay-vaennay-ntervency-kastrychnk-1917-sakavk-1921-gg.html
2. ЕГОРЫЧЕВ В.Е. РОЖДЕНЬНАЯ ОКТЯБРЕМ. ПО РЕКЕ ИСТОРИИ. Коммунист Беларуси. Номер 45 (881) от 08.11.2013 HTTP://WWW.COMPARTY.BY/ROZHDENNAYA-OKTYABREM-PO-REKE-ISTORII
3. Ладышэў Уладзімір, Брыгадзін Пётр, 1999. На пераломе эпох: Станаўленьне беларускай дзяржаўнасьці (1917-1920 гг), Мінск: БДУ.
4. ЛЕПЕШ А.В. БЕЛАРУСЬ У 1900-1939 ГГ.: КАРОТКІ КАНСПЕКТ ЛЕКЦЫЙ. БЕЛАРУСЬ У ПАЧАТКУ ХХ СТ.
http://www.hist.bsu.by/images/stories/files/uch_materialy/dok/2_kurs/IB_Lepesh/Konspekt.pdf

5. Рудовіч С.С. 2001 Час выбару: Праблема самавызначэньня Беларусі ў 1917 г., с. 133.
6. Савченко В. А. Двенадцать войн за Украину. — Харьков: Фолио, 2006. — 415 с.
7. Турук, Ф. Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов: С приложением образцов белорусской нелегальной литературы, важнейших документов белорусских политических партий и национальных организаций и этнографической карты белорусского племени, сост. Е. Ф. Карским / Предисл. А. Кавки. — Б.м., 1994 (Мн.:Картогр.ф-ка Белгеодезии). — 144 с. + 1 л. карт. — С. 97-100.

**Дадатковыя крыніцы:**

1. Апостал национального возрождения // Нёман. – 1995. - № 1. Беларускае пытаньне на Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919 - 1920 гг. http://scholar.su/content/belaruskae-pytanne?page=0,7
2. Казакоў Ю. Беларусь у гады Першай сусветнай вайны (1914-1918). 21.12.2007. http://jivebelarus.net/history/gistografia/belarus-at-first-world-war.html
3. Кобрын М.У. Беларускі нацыянальны рух. 1917-1920. Беларускае выдавецкае Таварыства "Хата", Мінск, 2004. http://pdf.kamunikat.org/6316-1.pdf
4. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года і беларускі рух. http://library.by/portalus/modules/belarus/print.php?subaction=showfull&id=1290693703&archive=1291455490&start_from=&ucat=8&
5. Michaluk D, Rudling A. "From the Grand Duchy of Lithuania to Belarusian Democratic Republic: the Idea of Belarusian Statehood, 1915-1919" The Journal of Belarusian Studies 7:2 (2014): 3-36.

*Матэрыялы артыкула былі часткова прадстаўлены на святкаваньні Дня Волі ў Аттаве 26 красавіка 2015 года.*

## Piotra Murzionak: Belarusian People's Republic. I. Pre-conditions of the convocation of the 1st All-Belarusian Congress

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2015, issue 10, pp. 14-23)*

The general atmosphere in Belarus in 1917 was characterized by war and devastation, saturation by military forces, the weak role of the central Russian Provisional Government, numerous political parties and public organizations acting in Belarus, and a small share of the Belarusians in the cities. The organization and convening of the 1st All-Belarusian Congress were performed with significant delay compared to similar events in Lithuania and Ukraine. The main reasons for that delay were the relative weakness of the national-democratic forces, and the uncertainty of ways of nation-building, which considered the construction of a sovereign state or the existence as an autonomous entity/as a part of Russia. The convening of the 1st All-Belarusian Congress was held with the participation of the two major forces - the Great Belarusian Council and the Belarusian Regional Committee under the illegal activities of the Bolshevik government.

№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757

**Пётра Мурзёнак: Беларуская Народная Рэспубліка. II. Першы Ўсебеларускі з’езд і Абвяшчэньне незалежнасьці**

*Ключавыя словы: ПершыУсебеларускі з’езд, абвяшчэньне незалежнасьці БНР*

Асьвятленьне падзей, зьвязаных з абвяшчэньнем БНР, даволі палітызаванае, пачынаючы ад ідэалізацыі толькі ўсяго пазітыўнага прадстаўнікамі нацыянальных эліт да прыклейваньня ярлыкоў буржуазных нацыяналістаў і здраднікаў беларускага народа заснавальнікам БНР камуністамі і іх прыхільнікамі. Гэта даследаваньне выстрайвае падзеі ў храналагічным парадку, што на нашу думку ў значнай ступені дазволіць чытачу зрабіць свае асабістыя высновы і прыйсьці да разуменьня таго, што адбывалася ў той лёсавызначальны час ў жыцьці Беларусі. Аўтар будзе ўдзячны за заўвагі і каментарыі.

**Правядзеньне 1-га Усебеларускага з'езда**

З'езд, ініцыяваны Вялікай Беларускай Радай, пачаў працу 5 сьнежня. Аднак, дэлегаты прыбывалі яшчэ амаль на працягу 10 дзён. Таму праца ішла ў секцыях. На паседжаньнях прыватнай нарады (працоўнага аргкамітэту) сяброў Ўсебеларускага з'езда ад 5 сьнежня 1917 г. адзначалася, што на з'езд пакуль прыехала каля 300 чалавек (чакалася 900) (Архівы БНР, 1998, с.15), ад 6-га сьнежня – 383 дэлегаты з вырашальнымі і 76 чалавек з дарадчымі галасамі (Архівы БНР, с.20). 7-га сьнежня з'езд пачаў сваю працу, дэлегаты яшчэ прыбывалі; на 8-га сьнежня на з'ездзе было 500 правамоцных дэлегатаў (Архівы БНР, с.30). Такі марудны збор дэлегатаў відаць быў вынікам барацьбы паміж ВБР і БАК за кіраўніцтва беларускім нацыянальным рухам. Толькі 8 сьнежня на паседжаньні Рады з'езда былі ўзгоднены пытаньні аб паскораным прыездзе на з'езд у Мінск дэлегатаў ад Беларускага Абласнога камітэта (Архівы БНР, с.28).

Канчаткова, з **5 па 17 сьнежня** мандатная камісія выдала 1167 мандатаў з правам рашаючага голасу і 705 – з правам дарадчага. У тым ліку грамадскім асобам было выдадзена 812 мандатаў з правам рашаючага голасу і 344 з правам дарадчага, ваенным – 355 з правам рашаючага голасу і 361 з правам дарадчага. Большасьць дэлегатаў прадстаўлялі валасныя, павятовыя і губернскія земствы, зямельныя камітэты, настаўніцкія арганізацыі і інш. У той жа час ваенныя мелі значную долю рашаючых галасоў, 355 з 1167 або 30%. У палітычных адносінах дэлегаты галоўным чынам прадстаўлялі эсэраў і членаў БСГ. Па нацыянальнай прыналежнасьці, з'езд складаўся з беларусаў. Напрыклад, у дэлегацыі абласнікоў (дэлегаты ад Беларускага Абласнога Камітэта, БАК) больш за дзевяць дзесятых дэлегатаў складалі беларусы

(Игнатенко, 1992, с. 54, с.60). На з'ездзе ўвогуле не было афіцыйных прадстаўнікоў бальшавіцкага Аблвыканкамзаха, якія праігнаравалі з'езд.

Напачатку працы з'езда адбыліся дзве важныя падзеі. **4 снежня 1917 года** ў мястэчку Солы пад Смаргоньню, немцы і дэлегацыя бальшавікоў заключылі перамір'е на Ўсходнім фронце тэрмінам на 2 месяцы (**Тэма 14. http://studopedia.org/1-30796.html). 11 снежня 1917 года**, Літоўскі нацыянальны савет, Тарыба, аб'явіў аб незалежнасьці Літвы ад Расіі і выказаў жаданьне ўсталяваць сувязі з Германіяй (Казлоў 1993, с. 30; Снайдэр, 2004, с. 197). Абвяшчэньне незалежнасьці Літвы пахавала на час ідэю І. Луцкевіча аб стварэньні Літоўска-беларускай дзяржавы.

**14 снежня**, калі, нарэшце, прыбылі ўсе дэлегаты, адбылося ўрачыстае адкрыцьцё з’езда. Быў абвешчаны склад прэзідыума і зацьверджаны Савет з’езда. Старшынёй з’езда быў абраны Іван Серада. У Савет з’езда ўвайшлі 57 чалавек, у тым ліку Я. Варонка (старшыня), Я. Карскі, Я. Канчар, А. Цьвікевіч і інш. У спісе Я. Варонкі, складзеным прыблізна ў 1921 г., пазначаны 36 сяброў Рады 1-га Ўсебеларускага з’езда (Архівы БНР, с. 37-38). Магчыма, што гэта быў спіс складзены на самым пачатку працы з’езда, які ў далейшым папаўняўся. 15 сьнежня быў абвешчаны парадак дня: 1) мэты і задачы з’езда; 2) палітычнае становішча краіны і лёс Беларусі; 3) пытаньні ўцекачоў; 4) дэмабілізацыя арміі. 16 і 17 снежня работа ішла па фракцыях, зямляцтвах і групах. Галоўнае абмяркоўваемае пытаньне было аб Беларускай Народнай Рэспубліцы і форме краёвай улады, дзе выразна вызначыліся розныя падыходы.

У шматлікіх публікацыях прысьвечаных з’езду даводзіцца існаваньне ўмоўных групп – прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычнай плыні, левых, цэнтрыстаў. Па сутнасьці ж, асноўныя спрэчкі на з’ездзе ішлі ў першую чаргу вакол пытаньня аб аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Паводле К. Езавітава на з'ездзе абмяркоўваліся 4 асноўныя погляды на будучае Беларусі, але ні адзін з іх не уключаў магчымасьць незалежнасьці Беларусі ад Расіі; такімі варыянтамі былі - вобласьць у складзе Расіі, рэспубліка ў складзе Расіі, аўтаномная адміністрацыя, поўнае злучэньне з Расіяй (Езавітаў, 1993, 25-29). На жаль дакументаў,  а менавіта стэнаграм з’езда, якія маглі б дакладна адлюстраваць абмеркаваньне гэтых пытаньняў няма. Паводле В. Скалабана, частка дакументаў, якія былі афіцыйным архіўным зборам з’езда, знаходзілася ў сп. Т. Грыба, абмяркоўвалася пытаньне, каб гэтыя дакументы былі прадстаўлены сп. Грыбам для далейшага апублікаваньня. Большасьць інфармацыі пра з’езд даецца ў літаратуры паводле асабістых запісаў непасрэдных удзельнікаў з’езда, зробленых падчас яго правядзеньня ці значна пазьней у сваіх успамінах, і часта калькуецца з адных крыніц у другія.

**Спрыяльная фактары Глабальнай цывілізацыі**

**Тэхналагічныя дасягненьні ў транспарце і тэхналогій сувязі**
Тэхналогіі забяспечваюць інфраструктуру для глабальных аперацый. Табліца 2 ілюструе зніжэньні выдаткаў на транспарціроўку ў апошнія 160 гадоў (1830-1990). Табліца 3 паказвае, як выдаткі на камунікацыі і кампутары зьнізіліся за апошнія 40 гадоў (1960-2000).

Падчас першай і другой хваляў глабалізацыі, тэхналогія забяспечыла неверагодную прадукцыйнасьць у вытворчасьці і перамяшчэньні розных рэчаў. Сёньня, тэхналогія кіруе прадукцыйнасьцю самой інфармацыі.

**Табліца 2. Транспартныя выдаткі, 1830-1990**

| **Год** | **Акіянскі транспарт** | | **Сярэдні даход ад перавозкі па паветры на пасажыра-мілю (у 1990 US$)** |
|---|---|---|---|
| | **Зярно, працэнт ад кошту** | **Акіянскі кошт 1920 = 100** | |
| 1830 | 79 | | |
| 1850 | 76 | | |
| 1880 | 41 | | |
| 1910 | 27.5 | | |
| 1920 | | 100 | |
| 1930 | | 65 | 0.68 |
| 1940 | | 67 | 0.46 |
| 1950 | | 38 | 0.30 |
| 1960 | | 28 | 0.24 |
| 1970 | | 29 | 0.16 |
| 1980 | | 25 | 0.10 |
| 1990 | | 30 | 0.11 |

Крыніцы: Болдуін і Марцін (Baldwin and Martin,1999), *Перспектывы развіцьця сусьветнай эканомікі,* травень 1997 года.

**Табліца 3. Сувязь і Кампутарныя выдаткі, 1960-2000**

| Год | Кошт 3-мінутнай размовы па тэлефоне Нью-Ёрк-Лондан | Кошт кампутараў і абсталяваньня адносна GDP паказчыка (2000=1000) |
|---|---|---|
| 1960 | 60.42 | 1,869,004 |
| 1970 | 41.61 | 199,983 |
| 1980 | 6.32 | 27,938 |
| 1990 | 4.37 | 7,275 |
| 2000 | 0.40 | 1,000 |

Крыніцы: *Перспектывы развіцьця сусьветнай эканомікі*, май 1997 года, Табліца 11, абноўлена да 2000; ЗША, Міністэрства гандлю, Бюро эканамічнага аналізу (2001).

Інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі (ІКТ) выклікаюць зрух у *прынцыпах працы* (*modus operandi)* ў пост-індустрыяльных грамадствах і заснаваны на новых ключавых асаблівасьцях (Bell, 1981):

(1) пераход ад вытворчасьці тавараў да абслугоўваньня эканомікі,

(2) рост залежнасьці ад тэарэтычных ведаў, і

(3) стварэньне новай «інтэлектуальнай тэхналогіі» на базе кампутараў і іншых разумных машын.

М. Кастельс (Manuel Castells) адзначае, што "тое, што зьмянілася, гэта не вынік актыўнасьці чалавецтва, але вынік яго тэхналагічнай здольнасьці выкарыстоўваць у якасьці непасрэднай прадукцыйнай сілы тое, што адрознівае наш від як біялагічны цуд: яго надзвычайная здольнасьць апрацоўваць сімвалы".

Тэхналогія ІКТ не замяняе сельскую гаспадарку і прамысловасьць, але аптымізуе іх. Яна прыводзіць да інфарматызацыі Глабальнае грамадства, якое злучаючы ўсіх нас робіць нас Глабальным адкрытым грамадствам. Як сімбіёз чалавека і машыны, утварэньне Глабальнай лічбавай сьвядомасьці забяспечвае пазнаньне і знешнюю памяць сістэм, якія падтрымліваюць Глабальную цывілізацыю і наадварот.

Такім чынам, Глабальная лічбавая сьвядомасьць складаецца з:

- інфармацыйнай сферы, InfoSphere (камп'ютарызаваныя інфармацыйна-камунікацыйныя сістэмы, якія складаюцца з баз дадзеных, прыкладных сістэм і сеціва),
- кіберпрасторы (інтэрнэт і вэб-прыкладныя сістэмы),

- медыясферы (радыё, тэлебачаньне, кабельнае),
- сферы разума (глабальныя ідэі, спароджаныя папярэднімі глабальнымі сферамі),
- cybersociety (з дапамогай электроньнай сувязі і прысутнасьці).

Індэкс Глабалізацыі, з дапамогай якога глабалізацыю можна падзяліць на складовыя часткі, паказвае, што "найбольш правадныя" краіны ў сьвеце атрымоўваюць выгаду ад глабалізацыі. Індэкс Глабалізацыі адсочвае рухі грошай у сэнсе інвестыцый і дзелавых зьдзелак у эпоху «электроннага капіталізму".

**Перанос вытворчасьці (аўтсорсінг) ад Заходняй цывілізацыі да цывілізацыі Усходу**

У 1980-х гадах, разьвітыя краіны пачалі перанос вытворчасьці ў краіны з таннай рабочай сілай. У выніку бедныя краіны ўварваліся ў глабальныя рынкі вытворчасьці тавараў і паслуг. Іх экспарт прамысловых тавараў і паслуг вырас з 25% ад агульнага аб'ёму экспарту ў 1980 годзе да больш чым 80% у 1998 годзе. Найбольш пасьпяховымі краінамі ў гэтым з'яўляюцца Бразілія, Кітай, Венгрыя, Індыя, Польшча і Мексіка, і яшчэ 20 краін. Яны, з 3 мільярдамі чалавек, дасягнулі ўзроўню роста на 5% вышэй, чым у разьвітых краінах.

Астатняя частка сьвету, якая разьвіваецца, гандлюе менш у пачатку 21-га стагоддзя ў параўнаньні з 1980 годам, што азначае, што 2 мільярды чалавек па-ранейшаму адстаюць (у асноўным у Афрыцы), а ў некаторых краінах нават назіраецца адмоўны рост.

У больш пасьпяховых краінах, якія развіваюцца, узровень беднасьці зніжаецца. Агульная колькасьць бедных слаёў насельніцтва толькі ў сельскіх раёнах Кітая знізілася з 250 да 34 млн на працягу 1980-1999 гг. (Stern і інш., 2002).

**Зніжэньне падатковых бар'ераў**

Нядаўняе зніжэньне сярэдніх тарыфаў было найбольш значным у Паўднёвай Азіі, ад 65% у пачатку 80-х гадоў да прыкладна 30% у 2002 годзе. За той жа перыяд Лацінская Амерыка, усходнеазіяцкі і ціхаакіянскі рэгіёны зьнізілі тарыфы ад 30 працэнтаў да 15 працэнтаў; Еўропа і Цэнтральная Азія - з 15 працэнтаў да 10 працэнтаў, а найбольш прамыслова-разьвітыя краіны - з 8 да 5 працэнтаў.

Толькі ў Афрыцы на поўдзень ад Сахары, на Блізкім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы тарыфы падтрымліваліся на даволі высокім узроўні, у дыяпазоне ад 20 да 25 працэнтаў, так як і ў 1998 годзе (World Bank, 2001). Тым не менш, такія краіны, як Эфіопія і Уганда, значна лібералізавалі гандаль.

Сярэднія тарыфы ў багатых краінах былі нізкімі, але яны падтрымлівалі бар'еры дакладна ў тых галінах, дзе краіны, якія развіваюцца, маюць канкурэнтную перавагу: сельская гаспадарка і вытворчасьць, якая патрабуе значных працоўных затрат. Кошт гэтай абароны для багатых краін, аплачваемы беднымі краінамі, складае каля 100 млрд даляраў ЗША ў год, што ў два разы больш памеру дапамогі, якое аказвае Паўночнае паўшар'е Паўднёваму (Stern, Стэрн *і інш,* 2002).

**Моц глабальнай фінансавай эліты**

За апошнія некалькі дзесяцігоддзяў, пачынаючы з 1970-х гадоў, і асабліва з 1980-х гадах, назіраўся хуткі рост фінансавага сектару ў эканоміцы ЗША і глабальнага капіталізму ў цэлым; сістэмны цэнтр цяжару зрушыўся ад вытворчасьці да фінансаў. Вынікам гэтага стаў значны рост фінансавай сістэмы, у якой вылезьці з доўгу ніколі не ўдаецца, што прыводзіць да вялікіх фінансавых крызісаў і ўсё больш агрэсіўнага ўмяшаньня дзяржавы.

Гэты працэс стаў відавочным ў канцы 20-га стагоддзя і пачатку 21-га, калі з’явіліся ўсё больш і больш экзатычныя формы фінансавых інавацый. Гэта ўключае ўсе віды ф'ючэрсаў, апцыёнаў, дэрыватываў, свопаў, разам з ростам значнай ценявой банкаўскай сістэмы па-за балансамі дзеючых банкаў. Адмена закона Гласса-Стигала (Glass-Steagall) ў 1999 годзе, хоць і не буйная гістарычная падзея сама па сабе, сімвалізавала ў поўнай меры дэрэгуляваньне, што мела месьца ў той час. Сістэма стала больш складанай, непразрыстай, і некіруемай.

У выніку, пачалася новая эра дамінаваньня фінансавых кангламератаў і сьвет стаў сьведкам пачатку ў 2008 годзе Вялікага фінансавага крызісу (Foster and Holleman, 2010). Дадзеныя з Forbes-400 паказваюць, што спекулянты-капіталісты сталі дамінаваць ў ЗША, выцясняючы, як клас, прамысловых і нафтавых капіталістаў. Акрамя таго, спекулятыўная аснова амерыканскага і сусьветнага капіталізму прынесла на першы план большую рызыку нестабільнасьці.

Некаторыя навукоўцы сьцвярджаюць, што дамінаваньне фінансавай эліты ў ЗША і, такім чынам, у Глабальнай эканоміцы, праяўлялася праз розныя ўладныя эліты, непасрэдна з удзелам саміх капіталістаў і тых, хто ад іх залежыць, тых, хто

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

прыйшоў, каб заняць стратэгічныя пазіцыі ў карпаратыўных і ўрадавых колах. Паняцьце "ўладная эліта" была ўведзена ў 1950-х гадах сацыёлагам Мілсам (C. Wright Mills), і пасьля дапрацавана іншымі, у прыватнасьці, Г. Уільям Домхоффам (G. William Domhoff), аўтарам спрэчнай кнігі, *Хто кіруе Амерыкай? (Who Rules America?).* Паводле Домхофф, уладная эліта гэта "кіруючая група або аперацыйная рука кіруючага класа. Яна складаецца з актыўных, дзейных сяброў кіруючага класа, і працаўнікоў высокага ўзроўню ва ўстановах, якія кантралююцца сябрамі кіруючага класа".

**Моц\улада глабальных карпарацый**

У 1952 годзе, генеральны дырэктар General Motors Чарльз Уілсан (Charles Wilson) класна сказаў, што "Тое што добра для General Motors, то добра для краіны ". На працягу апошніх 15 год, General Motors і іншыя глабальныя карпарацыі атрымалі многае з таго, што, як яны сьцвярджалі, было добра для іх. Яны былі пасьпяховымі ў дасягненьні лібералізацыі гандлю і інвестыцый, якія забяспечваюць сусьветныя кампаніі значнымі новымі свабодамі для атрыманьня прыбытку на міжнародным узроўні. Яны таксама пераканалі многія ўрады прыняць падыход неўмяшаньня да карпаратыўных манаполій, заяўляючы, што зліцьцё кампаній з'яўляецца неабходным для фірмаў, каб спаборнічаць на сусьветных рынках.

Са 100 найбуйнейшых эканомік сьвету, 51 з'яўляюцца карпарацыямі; і толькі 49 - гэта краіны. Гэта сьцверджаньне абапіраецца на параўнаньне карпаратыўных продажаў і валавага ўнутранага прадукта (ВУП) краін, падрыхтаванае Інстытутам палітычных даследаваньняў у 2010 годзе. Калі б разгледзіць гэтыя факты ў перспектыве, то мы б звярнулі ўвагу на тое, што кампанія Royal Dutch Shell была у 2012 годзе большай, чым Аргентына; Wal-Mart – большай, чым Аўстрыя; Toyota - большай, чым Пакістан; IBM - большай, чым Славакія; і Apple - большай, чым Марока.

Глабальныя карпарацыі ў наш час ажыццяўляюць сваю ўладу па-за межамі іх эканамічнай кампетэнцыі. Яны уплываюць значным чынам на выбарчыя кампаніі і пастаянна займаюцца лабіраваньнем. Дакладная сума, выдаткаваная на гэтыя мерапрыемствы, невядома, але з топ-200 кампаній, 94 кампаніі падтрымліваюць "дзяржаўныя адносіны" праз офісы, размешчаныя ў недалёкай блізасьці ад сусьветнай сталіцы лабіраваньня, уздоўж К-вуліцы, Вашынгтон, акруг Калумбія.

**Падатковае пазбяганьне як яшчэ адзін сімптом улады глабальных карпарацый**

Спецыфічныя дадзеныя па ўхіленьню кампаній ад выплаты падаткаў унутры і за межамі Злучаных Штатаў адсутнічаюць, аднак, тэндэнцыя да зніжэньня падатковай карпаратыўнай нагрузкі заўважна на міжнародным узроўні.

Па дадзеных АБСЕ (Арганізацыя па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе), на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў доля карпаратыўных падаткаў на прыбытак у агульным аб'ёме падаткаў у прамыслова развітых краінах АБСЕ застаецца прыкладна каля 8 працэнтаў, нягледзячы на моцны рост карпаратыўных прыбыткаў. Няўрадавая арганізацыя тлумачыць гэта зніжэньне падатковых ставак выкарыстаньнем “падатковых сховішчаў” " і інтэнсіўным спаборніцтвам сярод прамыслова разьвітых краін, паколькі яны спрабуюць прывабіць інвестыцыі, прапаноўваючы больш нізкія падаткі.

**Чаму Глабальная цывілізацыя?**

Чацьвёртая хваля глабалізацыі прыводзіць да з'яўленьня таго, што можа быць абазначана як Глабальная цывілізацыя, таму што яна адказвае агульным крытэрам цывілізацыі (Targowski 2004). Вось некалькі прыкладаў:

- Глабальная рэлігія – з часоў, калі Заходняя цывілізацыя ператварылася ў Глабальную цывілізацыю на пачатку 21-стагоддзя - Хрысьціянства (Пратэстантызм і Каталіцызм) заменена на глабальную\сусьветную рэлігію, што знайшло адлюстраваньне ў перакананьні аб тым, што бізнэс – гэта ўсеўладдзе і ён павінен кантраляваць грамадства для яго выгады. Тое, што добра для бізнэсу гэта добра для грамадства.
- Людзі складаюць пэўныя слаі грамадства ў 8 аўтаномных цывілізацыях - Заходняй, Усходняй, Ісламскай, Японскай, Кітайскай, Будыйскай, Індускай, і Афрыканскай.
- Культура мае глабальны характар, што азначае, што падобныя мадэлі паводзін практыкуюцца *(дэ-факта* толькі асобнымі сегментамі гэтых таварыстваў) у аўтаномных цывілізацыях, напрыклад, "англійская" мова, прафесійны ці студэнцкі код аддзеньня, музыка, кіно, ежа і напоі.
- Глабальная інфраструктура інфармацыі праз Інтэрнэт і Global Area сеціва, і матэрыялаў праз транспарт, фінансы і справы даходзіць да кожнай аўтаномнай цывілізацыі і інтэгруе іх у ствараемыя Глабальнае грамадства і Глабальную эканоміку. Акрамя таго, ёсьць шмат міжнародных арганізацый (камерцыйных і некамерцыйных, афіцыйных і неафіцыйных), такіх як Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, ЮНЕСКА, GATT, Сусьветная гандлёвая арганізацыя, Сусьветны банк,

Міжнародны валютны фонд, і НАТА, якія ствараюць Глабальную інфраструктуру правіл\рэгуляваньня.

Глабальная цывілізацыя гэта не іншая аўтаномная цывілізацыя, тая, якую можна назваць *вертыкальнай.* Хутчэй за ўсё, яна *гарызантальная* і яна пранікае ў аўтаномныя цывілізацыі, як паказана на Малюнку 2.




**Малюнак 2.** Утвараемая Глабальная\сусьветная цывілізацыя: Новы пласт Сусьветнай цывілізацыі на пачатку 21-га стагоддзя

Некаторыя крытыкі могуць сказаць, што прыметы Глабальнай цывілізацыі ў найменш разьвітых аўтаномных цывілізацыях яшчэ вельмі невыразныя (напрыклад, невялікая колькасьць карыстальнікаў Інтэрнэта або тэлефонаў). З іншага боку, гэтыя прыметы добра заўважныя ў тых цывілізацыях, чые эліты з’яўляюцца актыўнымі, істотнымі ўдзельнікамі Глабальнай цывілізацыі.

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

**Як Глабальная цывілізацыя ўплывае на працэс глабалізацыі іншых сучасных цывілізацый**

**Выкарыстаньне параўнальнага падыходу**

Малюнак 2 ілюструе інтуітыўна ступені ўспрыманьня глабалізацыі, што адбываецца ў васьмі сучасных цывілізацыях у 2010-х гадах. Самая глабалізаваная з іх Заходняя цывілізацыя, якая амаль ужо ператварылася ў Глабальную цывілізацыю. Гэта адбылося таму, што Заходняя цывілізацыя з'яўляецца ключавым трыгерам\пускачом глабалізацыі, паколькі яна спрабуе дамагчыся большага росту яе насычанай эканомікі.

Японская цывілізацыя далёка прасунулася ў працэсе трансфармацыі ў Глабальную цывілізацыю, паколькі Японія прыняла ў 19-м стагоддзі стратэгію мадэрнізацыі па тыпу Заходняй, *à la Westernization*. Рэстаўрацыя Меіji - таксама вядомая як Рамонт, Рэвалюцыя, Рэформа ці Абнаўленьне - была ланцугом падзей, якія аднавілі імперскае праўленьне ў Японіі ў 1868 годзе пры праўленьні імператара Меіji. Гэты перыяд доўжыўся з 1868 па 1912 гг. і быў ключавым у пераўтварэньні Японіі ў мадэрнізаваную нацыю ў пачатку XX стагоддзя. Пасля Другой сусьветнай вайны Японія дэмакратызавала палітычную сістэму і амерыканізавала сваю эканоміку, стаўшы сёньня лідэрам перадавой вытворчасьці тавараў, электронікі і аўтамабіляў.

- Усходняя цывілізацыя (Расія, Украіна, Беларусь, Малдова, Арменія, Грузія, Румынія, Балгарыя, Сербія (не Грэцыя, якая ёсьць праваслаўная, але, як выключэньне адносіцца да заходняй цывілізацыі) і мадэрнізуюцца, і глабалізуюцца сёньня, у залежнасьці ад палітыкі той ці іншай дзяржавы.
- Аднак, у сувязі з палітычнымі абставінамі, такія краіны, як Расія і Беларусь спрабуюць аднавіць Расійскую імперыю. Яны кіруюцца моцным нацыяналізмам, на аснове агульнага ворага, якім памылкова (але наўмысна) ўспрымаецца імі палітычны Захад ці Глабальная цывілізацыя.
- Такія краіны, як Грузія, Малдова і Сербія, знаходзяцца ў працэсе асацыяваньня з Еўрапейскім Саюзам, які далёка прасунуўся па шляху ператварэньня ў Глабальную цывілізацыю. Румынія і Балгарыя ўжо з'яўляюцца членамі Еўрапейскага Саюза і хутка вэстэрнізуюцца\глабалізуюцца.
- Толькі Украіна злоўлена на скрыжаваньні паміж Усходняй і Заходняй цывілізацыямі. Восеньню 2013 года Прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч адмовіўся падпісаць прапанаванае пагадненьне аб асацыяцыі з Еўрапейскім Саюзам. Замест гэтага, ён вырашыў падпісаць дамову з Расіяй, якая прапанавала крэдыт у 15 мільярдаў даляраў для Украіны па спецыяльна паніжаных коштах

(РІА Навіны-12.19.2013). Аднак, пра-ЕС украінскія дэманстранты і АМАП працягваюць канфліктаваць ў Кіеве, Прэзідэнт краіны зьбег, і Расія ў цяперашні час анэксуе Крым. Калі Украіна застанецца з Расіяй, гэта будзе паглыбляць яе (Расіі) нацыяналістычную пазіцыю супраць Захаду; аднак, у той жа час яна будзе глабалізавацца *à la "Russian Mother"* ( а-ля "Русь-матушка").

- Кітайская цывілізацыя з'яўляецца найбуйнейшым бенефіцыярам глабалізацыі, паколькі, у выніку гэтага працэсу, яна стала сусьветнай фабрыкай. Яе маладое пакаленьне вэстэрнізуецца хутка, але палітычнае кіраўніцтва не хоча, каб мадэрнізавацца праз Вэстэрнізацыю. Сумнеўна, што гэта цывілізацыя поўнасьцю ператворыцца ў глабальную цывілізацыю ў агляднай будучыні.
- Індуская цывілізацыя мадэрнізуецца, вэстэрнізуецца і глабалізуецца, каб стаць Сусьветнай ІТ лабараторыяй. Англійская мова з'яўляецца адной з двух афіцыйных моў гэтай цывілізацыі, якая надзвычайна дапамагае працэсу атрыманьня эканамічнай выгады ад глабалізацыі. З іншага боку, з-за істотных сацыяльных і эканамічных няроўнасьцей у гэтай цывілізацыі, наўрад ці калі-небудзь яна будзе ў стане ператварыцца ў глабальную цывілізацыю.
- Ісламская цывілізацыя "падмасьлівае" працэс глабалізацыі і атрымоўвае ад яе прыбытак. З іншага боку, яна адмаўляецца мадэрнізавацца і вэстэрнізавацца, за выключэньнем яе эліты. Нават перспектыўная Арабская вясна ў 2010-х паказала, як у Егіпце, што можа быць шлях назад, а не наперад. Некаторыя з яе краін, такіх як Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, б'юць усе сусьветныя рэкорды ў росьце самых сучасных гарадоў (такіх як Дубай). Катар, з яго суперсучасным горадам Доха, мае даходы ад глабальнага турызму і фінансаў, але сацыяльная сістэма з'яўляецца надзвычай далёкай ад правіл Заходняй цывілізацыі.
- Будыйская цывілізацыя моцна кіруецца рэлігіяй, хоць яе рэлігія імкнецца падтрымліваць сьвецкі лад жыцця. Яна мае такую інтэлектуальна значную догму, што многія «заходнікі» пераходзяць да будызму. Вельмі сумнеўна, што будыйскія каштоўнасьці будуць заменены калі-небудзь каштоўнасьцямі глабальнага бізнэсу.
- І, нарэшце, Афрыканская цывілізацыя мае эліту, адукаваную ў Заходняй / Глабальнай цывілізацыі, але з-за каланіялізму ў мінулыя стагоддзі, яна з'яўляецца ахвярай вэстэрнізацыі і сучаснай глабалізацыі, новага каланіялізму. У цяперашні час, Афрыка ўяўляе сабой поле бітвы паміж хрысьціянствам і ісламам, будучы тым часам пад уплывам кітайскага бізнэсу, а яе каштоўнасьці падпадаюць пад кітайскія вераваньні. Такім чынам, сёньня Афрыка спакушаецца глабалізацыяй, але яна не ў стане яшчэ пераўтварыцца ў глабальную цывілізацыю.

*№10, чэрвень 2015* *ISSN 2291-4757*

У Табліцы 4 параўноўваюцца сучасныя цывілізацыі і іх здольнасьці да глабалізацыі і пераўтварэньня ў Глабальную цывілізацыю.

**Табліца 4. Параўнальны стан сучасных цывілізацый у плане іх здольнасьці стаць удзельнікамі глабальнай цывілізацыі ў гэтым стагоддзі**

| Цывілізацыя | Уплыў глабалізацыі | Ключавы фактар | Стан Глабальнай цывілізацыі | Наступствы |
|---|---|---|---|---|
| **Заходняя** | IT запускае Глабалізацыю | Глабальнае фінансаваньне | Глабальная цывілізацыя дамінуе над Заходняй цывілізацыяй | Эканамічны спад і магчымая карэкцыя |
| **Японская** | IT запускае Глабалізацыю | Сусьветныя карпарацыі | Глабальная цывілізацыя з'ўляецца другім слоем над Японскай цывілізацыяй | Эканамічны застой і магчымая карэкцыя |
| **Усходняя** | У залежнасьці ад краіны | Бізнэс і\ці дэсаветызацыя | Хутчэй глабалізацыя чым Глабальная цывілізацыя калі-небудзь | Статус-кво |
| **Кітайская** | IT запускае Глабалізацыю | Бізнэс | Хутчэй глабалізацыя чым Глабальная цывілізацыя калі-небудзь | Кантраляваная глабалізацыя |
| **Індзійская (хінду)** | Моцны | Бізнэс | Хутчэй глабалізацыя чым Глабальная цывілізацыя калі-небудзь | Спантаньная глабалізацыя |
| **Ісламская** | Слабы | Экспарт нафты | Глабалізацыя эліты | Арыштаваная глабалізацыя |
| **Будыйская** | Вельмі слабы | Турызм | Глабалізацыя паслуг для наведвальнікаў краіны | Анты-глабальная палітыка |
| **Афрыканская** | Незразумелы | Прыродныя рэсурсы | Глабалізацыя як староньні прадукт актыўнасьці глабальнага бізнэсу | Незразумелая палітыка |

Як паказана ў Табліцы 4, Глабальная цывілізацыя, па сутнасьці, можа быць пазначана як Заходняя цывілізацыя 2.0. У нашы дні яна прымаецца Японскай і Індускай цывілізацыямі.

*№10, чэрвень 2015 ISSN 2291-4757*

Якая будучыня Глабальнай\сусьветнай цывілізацыі? Ці абмяжоўваецца яна толькі Заходняй цывілізацыяй 2.0? Ці магчыма, што з-за некалькіх глыбокіх, негатыўных зьменаў, што яна нясе, напрыклад, памяншэньне сярэдняга класа і тэхналагічнае насільле над працоўнымі сіламі, яна пойдзе ў зваротным напрамку? Ці гэта сапраўды добра для Сусьветнай цывілізацыі скончыць з разнастайнасьцю і рухацца да аднаго і толькі да аднаго віда цывілізацыі? Бліжэйшая будучыня павінна даць некалькі зьмястоўных адказаў на гэтыя пытаньні.

**Глабальная цывілізацыя ў 21-м стагоддзі**

У канцы 2-го тысячагоддзя, дзве цывілізацыі - "Заходняя-Захад" і Японская – былі на ўзроўні насычэньня. Гэта падштурхнула іх да зьнешняй экспансіі, што вядзе да стварэньня Глабальнай эканомікі. З канца Другой сусьветнай вайны да 1973 года, у Злучаных Штатах назіраўся ўстойлівы эканамічны рост. Але на пачатку 21-га стагоддзя, ЗША з насычанай нацыянальнай эканомікай, сталі залежаць ад зьнешніх крыніц (outsources) для забеспячэньня ўстойлівага эканамічнага росту.

Аўтсорсінг (перавод капітала за мяжу) забяспечвае рост амерыканскай нацыянальнай эканомікі без стварэньня новых працоўных месьцаў. Гэты працэс капіруецца іншымі дзяржавамі Заходняй Цывілізацыі – Захад (Захад – самая Заходняя частка, *ПМ*). Натуральна, што рэакцыя ахвяр глабалізацыі з'яўляецца моцнай і гучнай. Выглядае так, што працоўныя Заходняй Цывілізацыі-Захад не задаволены ростам Глабальнай цывілізацыі, тады як недзяржаўныя кансорцыумы і некаторыя краіны - задаволены.

Амаль кожны прадукт або паслуга на рынку найбуйнейшых эканомік Сусьветнай цывілізацыі мае замежных канкурэнтаў. Павелічэньне замежнай канкурэнцыі само па сабе з'яўляецца прычынай для глабалізацыі бізнэсу для таго, каб атрымаць такі памер і навыкі, каб быць здольным канкурыраваць эфектыўна (Yip, 1995).

Глабальныя канкурэнты сёньня гэта, у асноўным, амерыканцы, еўрапейцы, японцы і кітайцы. Такім чынам, Глабальная эканоміка магчыма толькі таму, што яна падтрымліваецца Глабальнымі інфраструктурамі. Гэтыя інфраструктуры падтрымліваюць:

- глабальныя сувязі (Інтэрнэт, Global Area Networks),
- глабальныя перавозкі,
- глабальныя фінансавыя мерапрыемствы,

- ствараэньне і распаўсюджваньне глабальных навуковых ведаў (прынцыпаў, правіл і законаў, вызначаных ў дадзенай навуцы / тэхналогіі), і
- практыка глабальнага кіраваньня, нават глабальнага падтрыманьня міру (з меншым посьпехам).

Архітэктура Глабальнай цывілізацыі паказана на Малюнку 3. Глабальная цывілізацыя сёньня кіруецца нябачнай сілай, у складзе глабальных фінансістаў і банкаў, недзяржаўных карпарацый, кіраўнікоў аўтсорсінгу, G7, МВФ, Сусьветнага банку, Сусьветнай гандлёвай арганізацыі, глабальнай рэлігіі, культуры і інфраструктуры.




Figure 3 The Architecutre of Global Civilization

Глабальная цывілізацыя можа быць вызначана наступным чынам:
*Глабальная цывілізацыя гэта вялікае Глабальнае грамадства, якое жыве ў поўнасьцю або часткова інтэграваных гарызантальных прасторах сучасных*

*аўтаномных цывілізацый, як невыразна матэрыялізаваная (нябачная-бачная), якая не з'яўляецца часткай большай цывілізацыі і існуе на працягу доўгага перыяду часу.*

*Яна спецыялізуецца на недарагой рабочай сіле і адрозніваецца ад іншых цывілізацый развіцьцём уласных перадавых глабальных культуральных сістэм, якія базуюцца на электроньнай сувязі, глабальнай бізнэс-рэлігіі (супер-спажывецтва, багацце і ўлада), абмене тымі ж ведамі (прынцыпы, правілы і законы, вызначаныя ў дадзенай навуцы або тэхналогіі плюс мудрасьць (разважлівасьць і выбар).*

*Гэта сістэма, якая абапіраецца на складаныя гарадскія, сельскагаспадарчыя інфраструктуры, і іншыя, такія як прамысловыя, інфармацыйныя. Акрамя таго, яна развіваецца цыклічна па стадыях, такімі як пад'ём, рост, зьніжэньне і падзеньне.*

*На пачатку 21-га стагоддзя яна знаходзіцца на стадыі пад'ёму ў гэтым цыкле.*

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

На пачатку 21-га стагоддзя, IV-я Хваля глабалізацыі трансфармуе Заходнюю цывілізацыю ў Глабальную цывілізацыю. Такім чынам, Хрысьціянства было заменена Глабальнай рэлігіяй (у форме бізнэс-рэлігіі), у той час як Глабальная сістэма інфармацыі і Транспартныя інфраструктуры сталі вельмі папулярнымі ў пошуку рашэньняў для глабальных камунікацый, а таксама перамяшчэньня матэрыялаў, тавараў і людзей.

У рэшце рэшт, Глабальнае грамадства становіцца бачным, моцным удзельнікам\ сутнасьцю ў распрацоўцы Глабальнай культуры паколькі адметныя, падобныя мадэлі паводзін ўсё часьцей практыкуюцца ва ўсім сьвеце.

Гэта шырокая трансфармацыя адлюстроўваецца вельмі прыкметна ў росьце велізарнай фінансавай няроўнасьці паміж глабальна спецыялізаванымі прадпрымальнікамі і работнікамі (без адукацыі ў каледжы ў заходнім грамадстве, структурна беспрацоўнымі і наўрад ці будучы паўторна нанятымі без атрыманьня добрых прафесійных ведаў, дыпломаў).

Напрыклад, у ЗША з 155.000.000 рабочых, каля 120 млн, хутчэй за ўсё, не змогуць ажыцьцявіць так званую амерыканскую мару. Больш за тое, іх бядотнае становішча, будзе тлумачыцца іх ўласнай віной.

Акрамя таго, сродкі масавай інфармацыі і палітычныя лідэры працягваюць сьцвярджаць, што тое, што добра для бізнэсу павінна быць добра для грамадства.

Колькасьць людзей, якія наведваюць царкву, хрысьціян у Заходняй Еўропе ў прыватнасьці, рэзка скарачаецца. Большасьць заходніх людзей прыцягвае спажывецтва. Усе каштоўнасьці, звязаныя з гэтым пераўтварэньнем, падтрымліваюцца бізнэсам. Некаторыя сьцвярджаюць, што бізнэс не валодае пераважнай сілай і, што ён можа кіравацца дэмакратычнымі працэсамі палітыкі. Тым не менш, практыка паказвае, што, праз яго лабістаў, бізнэс выступае супраць любых правілаў, плануемых палітыкамі і патрабуемых выбаршчыкамі, калі яны закранаюць інтарэсы вялікага бізнэсу.

Глабальная цывілізацыя мае інтэгратыўны і гарызантальны характар. Яна пранікае ў раней аўтаномныя цывілізацыі альбо цалкам (як у Заходнюю цывілізацыю) або часткова (напрыклад, у Японскую, Кітайскую, Усходнюю або Індускую цывілізацыі). У пачатку 21-га стагоддзя, мы бачым Заходнюю цывілізацыю амаль цалкам пераўтвораную ў Глабальную цывілізацыю, у той час як традыцыйная Заходняя цывілізацыя занепадае.

Японская і Індуская цывілізацыі сёньня мадэрнізуюцца праз вэстэрнізацыю, набываючы прыметы Глабальнай або Заходняй 2.0, але яны па-ранейшаму захоўваюць свой моцны характар традыцыйнай цывілізацыі. Цывілізацыі, такія як Кітайская (фінансуецца, з'яўляючыся сусьветнай фабрыкай) і Усходняя (фінансуецца праз экспарт нафты) мадэрнізуюцца вельмі істотна, адмаўляючыся ад вэстэрнізацыі. Тым не менш, яны глабалізуюцца праз развіцьцё інтэнсіўнага гандлю, дасягаючы ўсіх куткоў сьвету. Іх традыцыйныя цывілізацыйныя каштоўнасьці, гэтак жа, як і ў Японскай і Індускай цывілізацыях, таксама захоўваюцца.

Некаторыя настойваюць на тым, што глабалізацыя і Глабальная цывілізацыя з'яўляецца доўгачаканым рашэньнем, якое дазваляе разнастайнай чалавечай расе расьці як адной сям'і з адным урадам. Аднак гэты пункт гледжаньня не ўлічвае новае залатое правіла: разнастайнасьць, калі яна аб'яднаная, можа прывесьці да таталітарнага, неэфектыўнага і карумпаванага сусьветнага ўрада.

Глабальную цывілізацыю нельга спыніць, на мой погляд, паколькі яна развіваецца, галоўным чынам, дзякуючы вельмі моцнаму жаданьню, адчуваемаму новай Глабальнай элітай, павялічыць сваё багацьце і праз гэта палепшыць эканамічны стан неразвітых і развітых краін. Да таго ж, адносна свабодны паток ідэй і людзей

вітаюцца новай Глабальнай элітай, якая складаецца з СМІ, інтэлектуалаў і некаторых палітыкаў, якія кантралююць глабальнае мысленьне людзей.

Адной з прычын з таго, што няма ніякіх відавочных прыкмет запаволеньня працэсу глабалізацыі, з'яўляецца слабасьць руху антыглабалістаў, які б пагражаў Глабальнай эліце.

Тым не менш, у доўгатэрміновай перспектыве Глабальная цывілізацыя не дакажа сваю ўстойлівасьць, паколькі яна спажывае стратэгічныя рэсурсы (нафту, газ, уран і каляровыя металы) ў паскоранай манеры. У рэшце рэшт, род чалавечы ня будзе на тым ўзроўні, які ён дасягнуў сёньня. Кожны павінен спадзявацца на здольнасьць чалавецтва развіваць больш эфектыўныя веды і тэхналогіі, якія дапамогуць вырашыць сацыяльныя праблемы, з якімі мы сутыкаемся сёньня. Але, відавочна, што толькі адна тэхналогія не можа вырашыць велізарную, навісшую праблему перанасяленьня і дэградацыі планеты.

Толькі мудрасьць чалавека здольная зрабіць гэта.

**Спасылкі**

Blaha, S. (2002). *The Life Cycle of Civilizations*. Auburn, NH: Pingree-Hill Publishing.
Bosworth, A. (2003). “The Genetics of Civilization: An Empirical Classification of Civilizations Based on Writing Systems,” *Comparative Civilizations Review*, 49, 9.
Coulborn, R. (1966). “Structure and Process in the Rise and Fall of Civilized Societies,” *Comparative Studies in Society and History*, VIII-4: 404.
Fernandez-Armesto, F. (2001). *Civilizations, Culture, Ambition, and the Transformation of Nature*. New York: A Touchstone Book.
Foster, J.B. and H. Holleman (2010). The Financial Power Elite. *Monthly Review*. 62(1).
Hord, J. (1992). Civilization: a Definition Part II. The Nature of Formal Knowledge Systems. *The Comparative Civilization Review*, 26:111-135.
Huntington, S. P. (1996). *The Clash of Civilizations and the Remaking of World Order*. New York: Simon & Schuster.
Kroeber, A. L. (1957). *Style and Civilizations*. Ithaca, NY: Cornell University Press.
Krejci, J. (2004). *The Paths of Civilization, Understanding the Currents of History*. New York: Palgrave, Macmillan.
McGaughey, W. (2000). *Five Epochs of Civilization*. Minneapolis, MN: Thistlerose Publications.
Melko, M. (1969). *The Nature of Civilizations*. Boston, MA: Porter Sargent Publisher.
Melko, M. & Scott, L. R. (1987). *The Boundaries of Civilizations in Space and Time*. Lanham, MD.: University Press of America.
Quigley, C. (1979). *The Evolution of Civilizations*. Indianapolis: Liberty Press Edition.
Sorokin, P. (1950). *Social Philosophies of an Age of Crisis*. London: Stevens and Sons.
Soros, G. (2002). *On Globalization*. New York: Public Affairs Press
----------- (2003). *The Bubble of American Supremacy*. New York: Public Affairs. pp.

195-196.
Snyder, L.D. (1999). *Macro-History, a Theoretical Approach to Comparative World History*. Lewiston, NY: The Edwin Meller Press.
Spengler, O. (1980, reprint of 1932. *The Decline of the West*, one volume edition, transl. Charles Francis Atkinson. 104-105.
Standage, T. (2005), *A History of the World in 6 Glasses*. Walker & Company
Steger, M, B. (2003). *Globalization, a Very Short Introduction*. New York: Oxford.
Stern, N. (2002). *Globalization, Growth, and Poverty*. Washington, New York: World Bank, Oxford University Press.
Stiglitz, J. (2002). *Globalization and Its Discontents*. New York: W.W Norton & Company.
Targowski, A. (2004). From Global to Universal Civilization. *Dialogue and Universalism*, vol. XIV, no. 3-4, pp. 121-142.
Targowski, A. (2004). "A Grand Model of Civilization." *Comparative Civilizations Review*. 51:81-106.
Targowski, A. (2008). *Information Technology and Social Development*. Hershey, PA: IGI Publishers.
Toynbee, A. (1935). *A Study of History*, 2d ed. Oxford: Oxford University Press.
Yip, G.S. (1995). *Total Global Strategy*. Englewood Cliff, NJ: Prentice Hall.

## Andrew Targowski: From Globalization Waves to Global Civilization

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2015, issue 10, pp. 46-64)*

*Translated into Belarusian by Piotra Murzionak*

The purpose of this investigation is to characterize the impact of Five Waves of Globalization. These five Waves of Globalization have involved the world-wide flow of goods, money, information, and people with scope and intensity such that the progress of history has been altered. The waves emerged in the last 500 years and impacted the world's major civilization, itself a complex of compatibly interactive entities of society, culture and infrastructure within a large frame of territory and time, usually embracing several nations and centuries or even millennia. As the result of these five waves, what we can label the Global Civilization is emerging in the 21st century. Its religion, society and infrastructure will be defined and associated repercussions noted. It is a very rare case when we can observe the rise of a new civilization during our own lifetime. However, this is the case with Global Civilization, a new civilization now replacing Western Civilization.

*Літаратура*

Часопіс «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» віншуе Віталя Воранава, Ірыну Шумскую, Юрася Шамецьку з выхадам новых кніг і зычыць ім далейшых творчых посьпехаў. Ніжэй падаецца кароткая інфармацыя аб аўтарах і кнігах.

**Віталь Воранаў, "Шэптам"/"Szeptem«, Беласток, 2014.** Кніга «Шэптам» пра знахарства і забабоны, напісаная на падставе матэрыялаў, сабраных Віталем Воранавым падчас экспедыцыі на Падляшша і Палесьсе.




**Віталь Воранаў** — народжаны ў 1983 у Менску — беларускі перакладчык, літаратар, выдавец. Вучыўся ў школе № 2 у Глыбокім. У 1996 годзе разам з бацькамі эміграваў у Польшчу. Атрымаў сярэднюю адукацыю і міжнародны дыплём у Першым прыватным ліцэі ў Познані. Выпускнік Унівэрсытэту імя Адама Міцкевіча ў Познані і Ўнівэрсытэту імя Т. Г. Масарыка ў Брне. Сузаснавальнік і старшыня Беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру ў Познані. Заснавальнік выдавецтва «Белы крумкач». Адзін з рэдактараў літаратурнага часопіса «Паэтычныя

сшыткі» (Гнезна). Перакладае з ангельскай, чэскай і польскай моваў. Пераклаў на беларускую «У чаканьні Гадо» Сэмюэла Бэкета, «Віня-Пых» Алана Мілна. Піша прозу, вершы і п’есы. У 2013 годзе выйшаў зборнік яго апавяданьняў «Wielkie Księstwo Białoruś» («Вялікае княства Беларусь»). Займаецца і жывапісам.

Кнігу «Шэптам» складаюць 18 тэкстаў. Ніжэй падаецца ўрывак з кнігі А. Воранава “Шэптам”.

*************************************************************

VII

Па доўгай роўнай вуліцы за хлопчыкам гнаўся раз’юшаны і надзьмуты певень. Кожны раз, калі Богусь азіраўся, каб упэўніцца, ці задзёрыстая птушка ўжо адчапілася, ён з жахам заўважаў, як певень амаль наступае яму на пяты. Сэрца шалёна трапяталася, лёгкім пачынала бракаваць паветра, а ногі былі як у сне, нібы алавяныя. Але страх перамагае ўсе іншыя пачуцці, і хлопчык прыбавіў ходу. Дабегшы да мастка, ён павярнуў направа, вокамгненна пераскочыў праз парог і бразнуў дзвярыма перад самай дзюбай рашуча настроенага і чымсьці моцна ўгневанага пеўня. З злосным сабакам усё зразумела, ад яго благоцця і чакаеш. Нават наравісты кот, калі яго прыціснуць, можа даць добры адлуп, але хто мог бы спадзявацца такога заядлага нападзення з боку пеўня? Богусь, якому было восем гадоў, не мог, і хоць певень ані яго не дагнаў, ані не ўдзёўб, малец перапалохаўся надзвычайна.

Гэта адразу заўважыла бабуля. Шмат гадоў таму яна сама сталася ахвярай моцнага перапуду. На яе падняў сякеру п’яны сусед, і хоць тады неяк усё абышлося, пасля гэтага здарэння яна захварэла на ваўчанку. На твары расплылася чырвань у форме матыля, а на кончыку носа пачала рабіцца дзюрка. Праз дваццаць гадоў ад гэтай таямнічай хваробы звычайна памірае амаль палова хворых, а яна ачуняла і пражыла нашмат болей. Тады ёй дапамагла толькі шаптуха, а тое, што з пярэпалахам жартаў быць не можа, запомнілася на ўсё жыццё. Таму яна тут жа ўзяла Богуся і павезла да знаёмай бабкі, каб загаварыць пярэпалах.

Шаптуха падпаліла жмут травы, ад чаго па ўсёй хаце разнёсся прыемны, хоць і трохі гаркавы пах. Яна пачала курыць гэтай травой вакол хлопца і прыгаворваць: „Сцень-сценіца, выйдзі на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, з белага ліца, з русага валаса, з

яркіх вачэй, з тонкіх жылаў, з буйных касцей, з гарачай крыві.” Паўтарыўшы гэтак некалькі разоў, яна падышла да пліты і кінула недагарэлы астатак травы ў печ.

Па дарозе дадому бабуля заўважыла, што хлопчык адразу паспакайнеў. Богусь сядзеў таямнічы і задаволены. Відавочна, што замова і паездка да шаптухі вельмі яму спадабаліся. І гэта было праўдай. Малы ўжо задумваў, ад каго яшчэ можна было б злякацца, дзеля таго каб бабуля звазіла яго да шаптухі зноў. Сабака Бім відавочна быў самым простым варыянтам. Дарослыя часта папярэджвалі незнаёмых, каб толькі не палохаліся Біма. Але хто ж паверыць, што Богусь спалохаўся свайго лепшага сябра? А можа, гусака, разважаў сабе хлопец, але ж гэта неяк ужо зусім несур'ёзна, каб нейкая птушка пужанула яго другі раз. Яшчэ Богусь вельмі баяўся заставацца ў хаце адзін, калі пачыналася сутонне. Яму здавалася, што ў такім выпадку лепш ужо выйсці на двор, чым заставацца сам-насам з цемрай у чатырох сценах. Але прызнацца ў гэтым перад бабуляй для дарослага, васьмігадовага хлопца было б сапраўднай ганьбай. Найлепш, каб Богусю сустрэўся сапраўдны воўк, тады, па-першае, сполах не трэба было б сімуляваць, па-другое, у ім было б не сорамна прызнацца. Але ж адкуль ён возьмецца, той воўк, і таму хлопец вырашыў вярнуцца да першага варыянту, да сабакі Біма. Ён пастанавіў, што яшчэ заўтра паведаміць бабулі, што Бім яго не пазнаў і кінуўся, каб пакусаць. Богусь яшчэ не вярнуўся, а ўжо не мог дачакацца наступнай паездкі да шаптухі, так яго гэта ўсё ўразіла і “зачаравала”.

Калі яны прыйшлі дадому, бабуля сказала, што зараз вернецца і каб хлопец пачакаў яе ў хаце. Богуся тут жа апанавала цікаўнасць, чаму бабуля загадала сядзець у хаце, хоць на двары не было яшчэ надта цёмна. Кіраваны дзіцячай дапытлівасцю, ён падышоў да акна, з якога праглядаўся ўвесь двор. Ён убачыў, як бабуля выходзіць з курніка, адной рукой трымаючы сякеру, а другой – ягонага нядаўняга крыўдзіцеля. Праз момант той самы певень, толькі ўжо без галавы, штораз спатыкаючыся, але зноў і зноў падымаючыся, бегаў па панадворку...

Хлопчык тут жа падумаў пра Біма і цвёрда пастанавіў, што больш нікога і нічога лякацца не будзе: ні ўдавана, ні ўсур’ёз.

Для беларусаў, якія жывуць у Амерыцы і Канадзе кніжка «ШЭПТАМ» даступная пад гэтай спасылкай: http://www.e-krama.com/Pages/knihi.aspx

**Ірына Шумская: Краіна князёў, магнатаў і паэтаў**.

**Iryna Shumskaja: Distinctive Belarus. On the Roads of Dukes, Magnates, and Poets.**

Belarusian History & Culture Institute. Мінск, 2015, 144с., на англ. мове. ISBN: 978-9984-897-17-2






**Ірына Шумская (Хадарэнка)** нар. 19 чэрвеня 1976, Мінск — беларуская паэтка, празаік, публіцыст, музыказнаўца. Скончыла музычную школу па класу фартэпіяна, потым гімназію № 1 імя Ф. Скарыны. Пасля заканчэння вучобы ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце ў 1997 г., паступіла ў аспірантуру Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, дзе таксама працавала ў якасці выкладчыка, займаючы пасаду дацэнта. Па выніках 1998 г. была прызнана лепшым музычным аглядальнікам Беларусі. З'яўляецца аўтарам шматлікіх публікацый у навуковых і перыядычных айчынных выданьнях, таксама друкавалася ў "Беларускім дайджэсьце" ў ЗША. Некаторыя вершы былі пакладзены на музыку беларускімі кампазітарамі М. Яцковым і А. Елісеенкавым. Перакладае з польскай і рускай мовы. Яе творы былі перакладзены на рускую, украінскую, польскую, нямецкую мовы.

У 2002 г. паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю па спецыяльнасці “тэорыя і гісторыя культуры”. Стажыравалася ў Варшаўскім і Ягелонскім універсітэтах. Выпускніца Усходне-Еўрапейскай Школы палітычных даследаванняў пры Радзе Еўропы (2010). Стыпендыстка творчай праграмы “Gaude Polonia” (2010), удзельніца міжнароднага літаратурнага праекта “Dagny” (2011).

У сваёй кнізе "Distinctive Belarus. On the Roads of Dukes, Magnates, and Poets" ("Самабытная Беларусь. Дарогамі князёў, магнатаў і паэтаў") яна прадставіла у займальнай форме свой погляд на ролю Беларусі ў сусьветнай гісторыі, падкрэсліваючы самабытнасьць мясцовых традыцый і іх шчыльную ўзаемасувязь з агульнаеўрапейскай культурай. Паводле яе меркаваньня, беларусам даўно трэба спыніць разгляд сваёй нацыянальнай гісторыі скрозь прызму расійскіх геапалітычных інтарэсаў, а міжнацыянальны дыялог у першую чаргу варта ладзіць менавіта праз сістэму культуры і асьветы.

Кніга багата ўпрыгожана ілюстрацыямі Язэпа Драздовіча, Напалеона Орды і здымкамі – як самой аўтаркі, так і вядомага беларускага фотамастака Сяргея Плыткевіча. Дадзенае выданьне, што пабачыла свет дзякуючы падтрымцы незалежнага Інстытута беларускай гісторыі і культуры (Рыга), акрамя таго, што скіравана на пашырэньне ведаў аб культурных здабытках рэспублікі сярод грамадзян блізкага і далёкага замежжа, таксама можа служыць і ў якасьці турыстычнага дапаможніка для тых аматараў падарожжаў, хто яшчэ не пасьпеў азнаёміцца з асноўнымі цікавосткамі Беларусі.

Кніга выйшла невялікім накладам і была прэзентаваная грамадскасьці напрыканцы лютага. У бліжэйшы час плануецца распаўсюд кнігі па замежных бібліятэках, цэнтрах славістыкі і сярод прадстаўнікоў беларускіх дыяспар.

**Юраст Шамецька: Атава Вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 128 с.**






**Юрась Шамецька** нарадзіўся ў Мінску, а з 1997 года жыве і працуе ў Канадзе. Аматары паэзіі ведаюць яго вершы па першай кнізе, сімвалічна названай «Шлях да вяртання». Другі зборнік вершаў названы таксама з глыбокім падтэкстам. Атава – гэта не толькі горад, дзе жыве паэт, але і трава, што вырасла ў той жа год на пакошы. Ёсць нешта неўтаймоўна жыццёвае ў гэтым сімвале. І наогул, творы Юрася Шамецькі шматасацыятыўна пашыраюць прастору беларускай паэзіі нават геаграфічна, як гэта ўжо адзначалі вядомыя крытыкі і літаратуразнаўцы. Кожны, хто прачытае кнігу, зможа пагадзіцца, што яго паэтычнае вяртаньне на радзіму адбываецца па-сапраўднаму таленавіта і пераканаўча.

*Юрась Шамецька.* ***Атава***

*Траву скасілі — прарасла*
*жывой атавай...*

*У нашай блізкасці шляхоў*
*сваёю стала.*

*А горад, што мяне прыняў,*
*завуць Атава.*

*Мне родным называць яго*
*ўжо ёсць падстава.*

*Я тут прарос густой травой,*
*жывой атавай.*

*Цяпер душы, каб стаць сабой,*
*пара настала.*

*****************************************************************

**Advertisements. New books.**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", June 2015, issue 10, pp. 65-71)*

Magazine "CULTURE, NATION" congratulates Vitaly Voronov, Irina Shumskaja, Yuri Shametska with the release of new books and wished them a further success. The summary on authors and books is provided in Belarusian.

*Наступны нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў верасьні 2015 года*